Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 21 (4770) 30 мая 2014 г.




Вар'яцтва, мастацтва, фантастыка 6



Геній — гэта… 7



Моладзь чытае? 9



Ёй давяраў Мележ! 12

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручыў пасведчанні, нагрудныя знакі і дыпломы навучэнцам і студэнтам — лаўрэатам спецыяльных фондаў Прэзідэнта Беларусі, уладальнікам залатых медалёў міжнародных алімпіяд, першых месцаў міжнародных конкурсаў і фестываляў, фіналістам дзіцячага тэлевізійнага конкурсу «Я спяваю!» Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што высокі ўзровень адукацыі і творчы патэнцыял асобы з'яўляюцца найважнейшымі каштоўнасцямі для Беларусі.

✔ Міністэрства адукацыі краіны і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт сумесна з Інфармацыйным пунктам Савета Еўропы праводзяць у Мінску Рэспубліканскі конкурс творчых прац «Будучыня без вайны і нянавісці», прымеркаваны да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Конкурс, у якім бяруць удзел студэнты рэспубліканскіх ВНУ, праходзіць па трох намінацыях: «Эсэ», «Сацыяльны відэаролік» і «Плакат».

✔ Нацыянальны банк Беларусі днямі ўвёў у абарачэнне памятныя манеты «70 гадоў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў»: сярэбраная — наміналам 20 рублёў і медна-нікелевая — 1 рубель. Наклад манет — 3 тысячы.

✔ Свята мастацтваў «Музы Нясвіжа-2014» адбылося ў Радзівілаўскім замку і Нясвіжскай ратушы. Госці фестывалю наведалі спектакль «Гэта таго вартае», а таксама ўзялі ўдзел у прэзентацыі новай кнігі «Мастацкія цуды Нясвіжскай зямлі». Сапраўднай аздобай форуму сталі канцэрты Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Фінберга.

✔ Міністэрства культуры падвяло вынікі адкрытага рэспубліканскага конкурсу кінапраектаў на вытворчасць фільмаў па сацыяльна-творчых заказах. Конкурсная камісія падтрымала анімацыйны кінапраект, у які ўваходзяць мультфільмы «Глінка» і «Іаган Штраус», а таксама ігравы кінапраект «Дзяржаўная граніца», які складаецца з фільма 10 «Аперацыя «Франклін» і фільма 11 «Грошы не пахнуць». Абодва кінапраекты прадставіла Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм».

✔ Полацкім раённым Саветам дэпутатаў прынята рашэнне прысвоіць званне Ганаровага грамадзяніна г. Полацка пісьменніку, галоўнаму дырэктару радыё «Беларусь» Навуму Гальпяровічу. Урачыстая цырымонія па ўручэнні атрыбутаў звання адбудзецца заўтра падчас свята горада.

✔ Фестываль традыцыйнай культуры «Зялёныя святкі», прысвечаны святу Сёмухі, пройдзе 1 чэрвеня ў Магілёўскім этнаграфічным комплексе народных промыслаў у Зялёным гаі. Адной з адметнасцей фестывалю стануць майстар-класы народных умельцаў. Для дзяцей будзе працаваць творчая пляцоўка, дзе іх пазнаёмяць з традыцыйнымі гульнямі і забавамі, а народныя майстры навучаць усіх жадаючых рабіць лялек з травы.

# Спектакль — сімвал Беларусі

Фота БелТА



Сучасная Паўлінка — Кацярына Алейнікава.

Фота з сайта archives.gov.by



Паўлінка — заслужаная артыстка БССР Раіса Кашэльнікава, пан Быкоўскі — народны артыст СССР Барыс Платонаў. Мінск, 1944 г.

**«Паўлінка» святкуе 70-гадовы юбілей. Упершыню легендарная пастаноўка Купалаўскага была прадстаўлена ў 1944 годзе ў Томску, калі тэатр знаходзіўся ў эвакуацыі. З таго часу змянілася чатыры пакаленні артыстаў, але па-ранейшаму гісторыя пра тое, як дзяўчына супраць бацькоўскай волі абрала сабе жаніха, а таксама крылатае «тудэма-сюдэма» любімыя публікай.**

Сваю «Паўлінку» Янка Купала напісаў у 1912 годзе ў фальварку Акопы Лагойскага раёна, куды прыязджаў да маці на вакацыі. Першапачаткова твор задумваўся як апавяданне «А вербы шумелі». На камедыю з немудрагелістым сюжэтам песняра натхніла дзяўчына-шляхцянка Ядзя Аўлачымская, якая жыла па суседстве. Менавіта яна стала прататыпам галоўнай герaіні — зграбная, прыгожая, з грабеньчыкам у валасах.

Паўлінку ігралі самыя яркія актрысы свайго часу. Першай своеасаблівую дынастыю распачала ў 1913 годзе Соф'я Маркевіч, у газетных нататках таго часу — спадарыня Маркавічанка. Ужо праз месяц галоўную ролю ў п'есе выканае муза Янкі Купалы — Паўліна Мядзёлка. Сёння захавальніцай традыцый выканання ролі Паўлінкі называюць Алу Доўгую. Па словах актрысы, яна ўжо можа напісаць навуковы трактат пра тое, як жыве і развіваецца пастаноўка. Дарэчы, святкаванне дня нараджэння спектакля супала з яе асабістым юбілеем — днямі актрысе споўнілася 75 гадоў.

Новы Купалаўскі тэатр пасля рэканструкцыі адкрыў сезон знакавай «Паўлінкай». Галоўны рэжысёр Мікалай Пінігін пастараўся максімальна захаваць пастаноўку Льва Літвінава 1943 года. У камедыі «асвяжылі» як касцюмы, дэкарацыі, так і акцёрскі склад. Новымі Паўлінкамі сталі маладыя актрысы Кацярына Алейнікава і Марта Голубева, якія змаглі ўзяць самую высокую ноту ў вакальнай партыі галоўнай гераіні — соль другой актавы (нязменнае патрабаванне да ўсіх Паўлінак).

Быў час, калі артысты выступалі пад фанаграму. Аднак у 2000 годзе ў спектаклі загучала жывая музыка. Тады Паўлінкай была Зоя Белахвосцік, якая хутка пайшла ў дэкрэт. Вярнуцца ў пастаноўку на адзін сезон папрасілі Алу Доўгую. Але актрыса паставіла свае ўмовы: або спяваць з аркестрам, або зусім не выступаць. У выніку загадчык музычнай часткі тэатра Уладзімір Кур'ян зрабіў аранжыроўку партытуры Яўгена Цікоцкага, які напісаў да спектакля музыку, — і камедыя загучала пад жывы аркестр. Купалаўцы адзначаюць: сакрэт поспеху пастаноўкі — яе прастасць і дабрыня. Сёння «Паўлінка» лічыцца нацыянальным брэндам.

Да слова, у верасні «Паўлінку» Купалаўскага тэатра чакаюць у Томску, дзе 70 гадоў таму ўсё і пачыналася.

**Таццяна ШЫМУК**

За падзеяй

# Нераўнадушша як прычына для чытання

**У паўночнай сталіцы Расіі поруч з чарговым эканамічным форумам днямі праводзіўся IX Санкт-Пецярбургскі міжнародны кніжны салон.**

З 23 па 26 мая Яе Вялікасць Кніга гаспадарыла не толькі ў кнігарнях горада, не толькі на Міхайлаўскім манежы, але і ў многіх іншых установах — у бібліятэках, кінатэатрах, проста на вуліцах горада. У салоне ўзяла ўдзел прадстаўнічая беларуская дэлегацыя на чале з першым намеснікам міністра інфармацыі Ліліяй Ананіч. Сустрэчу кніжнікаў з розных краін свету іначай як уражальнай падзеяй культурнага і асветніцкага жыцця горада і не назавеш.

Новае — не толькі даўно забытае старое. Гэтую ісціну пацвердзіў кніжны салон у Санкт-Пецярбургу.

Што па-добраму здзівіла і што выглядае як істотнае адрозненне кніжнага салона ад некаторых іншых падобнага кшталту творчых, арганізацыйных праектаў? У манежы і на суседніх пляцоўках гаспадарылі, як правіла, аўтары, пісьменнікі, дарэчы, не заўсёды самыя вядомыя. Сапраўды, часам на выстаўках іх арганізатары забываюцца, што пра кнігу лепей, чым самі аўтары, ніхто і не раскажа. Якія імёны адкрыў салон? Алег Рой — тэлевядучы і пісьменнік — расказваў пра ўласныя раманы і сваю тэлепраграму «Жаночае шчасце». Міхаіл Велер пазнаёміў з кнігай «Легенды Неўскага праспекта». Прафесар Юрый Зобнін прэзентаваў кнігу «Гумілёвы і войны», выхад якой прысвечаны 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай вайны. Дзяржаўна-патрыятычная тэматыка гучала на сустрэчы рэдкалегіі часопіса «Родная Ладога» — «І літаратура, і палітыка…». Аляксандр і Ніколь Гратоўскі правялі інтэрактыўную лекцыю па выніках кругасветнай экспедыцыі і расказалі пра сваю кнігу «Прынцып дэльфіна». Дарэчы, даследчыкі і прыродазнаўчыя публіцысты — стваральнікі праекта «Пасольства дэльфінаў».

Уражвае партнёрства на кніжным салоне. Разам паядналіся ў прадстаўленні кніг грамадскія арганізацыі, фонды, творчыя саюзы, пісьменнікі, выдаўцы, інстытуты ўлады. На кніжны салон ішлі сем'ямі, класамі, школамі. Праводзіліся сустрэчы з акцёрамі, кніжныя графікі арганізоўвалі майстар-класы, фотажурналісты знаёмілі са сваімі працамі, у салоне «засвяціліся» і калекцыянеры, збіральнікі антыкварыяту… Словам, жыццё віравала і кіпела. Гэта найболей і ўражвала.

Мноства мерапрыемстваў на кніжным салоне правялі члены Саюза пісьменнікаў Расіі. Прадстаўнічую дэлегацыю з Масквы (Юрый Каняплянікаў, Сяргей Куняеў, Аляксандр Казінцаў) дапаўнялі літаратары Санкт-Пецярбурга на чале з паэтам Барысам Арловым. У памяшканні кінатэатра «Радзіма» Аляксандр Казінцаў і Сяргей Куняеў правялі прэзентацыю часопіса «Наш современник». Размова, між іншым, ішла і пра цеснае супрацоўніцтва вядучага расійскага часопіса з Беларуссю. Аляксандр Казінцаў адзначыў: сярод аўтараў выдання — і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. А шмат хто з удзельнікаў імпрэзы дадаў, што часопіс вызначаецца сімпатычным стаўленнем да тых палітычных, сацыяльных праектаў, якія рэалізоўваюцца ўладамі Беларусі.

Гасцямі кніжнага салона ў Санкт-Пецярбургу былі таксама сербскія, балгарскія літаратары, пісьменнікі краін Балтыі, паэты, празаікі Крыма.

**Сяргей ШЫЧКО**

Акцыя

# Лета з кнігай

**1 чэрвеня ў Дзіцячым парку імя М. Горкага ў сталіцы стартуе акцыя, скіраваная на падтрымку чытання, — «Лета — з добрай кнігай».**

Арганізатары, заснавальнікі сапраўды творчага праекта — Міністэрства інфармацыі краіны, Мінскі гарвыканкам, Выдавецкі дом «Звязда» і «Белкніга». Ініцыятыва скіравана на тое, каб пашырыць сярод дзяцей прысутнасць кніг беларускіх аўтараў і выдавецтваў. У парку імя М. Горкага ў нядзелю будзе разгорнуты гандаль кніжнымі навінкамі. Пройдуць аўтограф-сесіі празаікаў і паэтаў, якія ў апошні час працавалі з разлікам на дзіцячага чытача, — Алега Ждана, Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, Генадзя Аўласенкі, Алеся Бадака, Уладзіміра Мазго ды іншых пісьменнікаў. Сваімі работамі парадуюць дзяцей і іх бацькоў кніжныя графікі, якія афармляюць творы для дзяцей. Пра досвед працы з ілюстраваннем розных кніг раскажа маладая мастачка Дана Рунова. Актыўны ўдзел у акцыі возьмуць выдавецтвы «Мастацкая літаратура», «Адукацыя і выхаванне».

Асобныя праекты ў межах акцыі, якая будзе праходзіць па ўсёй краіне, вылучыць Саюз пісьменнікаў Беларусі. «Лета — з добрай кнігай» — магчымасць нагадаць пра навінкі і класіку, шырэй адчыніць дзверы бібліятэк, разгарнуць жывую работу з чытачом у кнігарнях.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# А хто па-беларуску?

**Значная падзея адбылася ў культурным жыцці краіны. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла кнігу твораў славутага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі «І мёртвым, і жывым, і ненароджаным». Падрыхтоўку да друку, укладанне і каментарый зрабілі кандыдат філалагічных навук дацэнт Таццяна Кабржыцкая і доктар філалагічных навук прафесар Вячаслаў Рагойша.**

Яны выкарысталі лепшыя пераклады вядомых беларускіх паэтаў, якія былі зроблены раней, ужо выдаваліся. Аднак укладальнікі ўпершыню падрыхтавалі сапраўды навуковае выданне украінскага кабзара. Яны выправілі памылкі, недакладнасці, якія былі ў ранейшых выданнях, дадалі да тэкстаў грунтоўны каментарый, дзе былі зроблены патрэбныя тлумачэнні да асобных радкоў вершаў, раскрыты цікавыя моманты з абставін іх стварэння, пададзены неабходныя звесткі пра асоб, якія згадваюцца ў творах. Важкасць выданню надала і змястоўная прадмова ўкладальнікаў, у якой падрабязна расказана пра гісторыю перастварэння спадчыны Тараса Шаўчэнкі на беларускую мову на працягу XX стагоддзя. Згадваецца і пра даследаванне яго твораў беларускімі вучонымі.

У сталічнай бібліятэцы № 10, якая носіць імя Тараса Шаўчэнкі, адбылася прэзентацыя кнігі. Пра асаблівасці яе выдання распавялі загадчыца бібліятэкі Алена Біруля, рэдактар кнігі Анатоль Зэкаў, доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс. В. Рагойша ўзгадаў пра шэраг адметных праблем, звязаных з падрыхтоўкай кнігі, прачытаў уласны пераклад «Запавету» Тараса Шаўчэнкі.

Яшчэ адна прэзентацыя выдання адбылася ў сценах філалагічнага факультэта БДУ. Асаблівасцю імпрэзы было тое, што студэнты агучылі зборнік: чыталі вершы Тараса Шаўчэнкі ў арыгінале і ў перакладах. На прэзентацыі выступілі галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец, кандыдаты філалагічных навук, намеснік дэкана філфака Павел Навойчык і Мікола Хмяльніцкі, кандыдаты філалагічных навук Алена Вострыкава, Жанна Шаладонава і Анатоль Верабей. Укладальнікі расказалі студэнтам пра асаблівасці выдання кнігі перакладаў на сучасным навуковым узроўні, адзначылі важнасці літаратурных і культурных сувязей, якія жывяцца перакладамі, уплываюць на больш блізкае знаёмства народаў.

**Міхась АЛЬСЕВІЧ**

# Купалаўская ноч

**Што рабіць, калі пасля заходу сонца зусім не да сну? Заплюшчыш вочы, а на сэрцы — трывога, у думках — мітусня. Усім, каго напаткала бессань ці проста жаданне паслухаць добрую паэзію і музыку, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прапанаваў незвычайную культурную акцыю.**

«Ноч літаратуры» адбылася ў Доме Купалы 22 мая, сабраўшы ўдзельнікаў з пяці краін свету — Украіны, Літвы, Расіі, Польшчы і Беларусі. Адзін з самых гасцінных у сталіцы музеяў напоўніўся мілагучнымі спевамі і дэкламацыямі таленавітых паэтаў і акцёраў, музыкаў і выканаўцаў. Пералічыць усіх немагчыма, але варта адзначыць, напрыклад, фальклорны ансамбль «Ватра», які парадаваў слухачоў украінскімі народнымі песнямі і каларытнымі касцюмамі. Чырвоныя чаравічкі, вышыванкі, рознакаляровыя стужкі, уплеценыя ў доўгія косы — усё гэта ставарала атмасферу гогалеўскіх «Вечароў на хутары...» і, зразумела ж, добры настрой. У межах украінскага выступлення прагучалі таксама паэтычныя творы, прысвечаныя памяці Тараса Шаўчэнкі, якога вельмі любіў перакладаць Янка Купала. Песні на польскай мове, пад гукі гітары і фартэпіяна, выканаў дуэт *Laudans* — пранікнёна і горача, «вочы ў вочы» з аўдыторыяй, на адным подыху. Дарэчы, свае першыя творы Пясняр ствараў менавіта па-польску. Жыццё Янкі Купалы было таксама звязана з Расіяй, дзе ён жыў і працаваў над п'есай «Паўлінка», і Літвой, дзе яму давялося быць у калектыве рэдакцыі «Нашай Нівы». Так, у межах Ночы літаратуры студэнты сталічных вузаў выступілі з праектам «Дзеці Маякоўскага», агучыўшы лірычныя творы не толькі легендарнага рускага футурыста, але і іншых класікаў Сярэбранага веку, а таксама свае, аўтарскія. Адна з мэтаў моладзевага аб'яднання — даказаць, што сучасныя хлопцы і дзяўчаты ставяцца да літаратуры з павагай і здольныя ствараць цудоўныя вершы. Пра гэта сведчыла і поўная зала тых, хто прыйшоў у музей на мерапрыемства, якое, безумоўна, стала яшчэ адным крокам на шляху паяднання культур і ўмацавання сяброўскіх стасункаў суседніх дзяржаў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# І любага прысушыць!

**Начное свята ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбывалася напярэдадні значнага юбілею: Купалаў дом быў заснаваны семдзесят гадоў таму — 25 мая 1944 года.**

У ноч музеяў ён сустракаў наведвальнікаў вялікім канцэртам, у якім узялі ўдзел тэатр танца «Отражения» і пластычны тэатр «ВКубе», гурты *Rahis, HANDMADE, ZnaRock, Folkmashina, Re1ikt*, бард Сяргей Башлыкевіч.

Аказваецца, у выкананні сучасных калектываў беларуская народная песня можа гучаць і выглядаць экстрэмальна! Побач з музеем можна было пагуляць у вялікія шахматы, узяць удзел у майстар-класах ад школ танцаў *KREDO* і «Кінезіс», набыць што-небудзь прыемнае на handmade-кірмашы. Але ці варта набываць сувеніры, калі ёсць магчымасць зрабіць іх уласнымі рукамі? Да творчай працы мог далучыцца кожны наведвальнік начнога музея.

Каманда валанцёраў з Інстытута сучасных ведаў пад кіраўніцтвам музейных супрацоўнікаў ладзіла выданне эксклюзіўнай газеты «КупалаNEWS». Фотаздымкі, радкі з вершаў, цікавыя нататкі і нават рэклама адвольным чынам спалучаліся ў вялікія калажы. Самаробны нумар газеты можна было ўзяць з сабой як напамін пра свята альбо замацаваць на вуліцы між дрэў купалаўскага парку — каб усе пабачылі і пачыталі!

Папулярнасцю карыстаўся майстар-клас Алены Навумчык па вырабе традыцыйных беларускіх лялек: дзяўчынак, хлопчыкаў і парачак-«неразлучнікаў». Лялька магла быць і ўласным абярэгам, і падарункам, а магла назаўсёды прысушыць любага. Галоўнае — працаваць з добрымі думкамі і ўлічваць парады майстра.

Студэнты Мінскага дзяржаўнага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава малявалі наведвальнікам радаводныя дрэвы. Здаецца, не вельмі складаная справа, але для студэнтаў удзел у свяце з'яўляецца добрай практыкай: «Мноства людзей, і трэба засяродзіцца на сваёй справе, выяўляць фантазію, не звяртаючы ўвагу на тое, што адбываецца побач», — распавялі студэнткі трэцяга курса Ліна, Дар'я і Дзіяна.

Падтрымліваў начную праграму тэатр мініяцюр «Живое слова», які працуе пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Акцёры прадэманстравалі, як пры адсутнасці білета трэба размаўляць з кантралёрам, і нагадалі цікавыя выпадкі з экзаменацыйных сесій. А ў шостай зале музея, дзе знаходзіцца інтэрактыўная зона для дзяцей, маленькія наведвальнікі мелі магчымасць не толькі павісець на парашуце, але і пагуляць з бацькамі ці валанцёрамі ў настольныя гульні.

Гэтым разам у экспазіцыйных залах панавала больш вясёлая і жывая атмасфера, чым звычайна ў музеі. Каб займальна і крэатыўна правесці час, дастаткова нітак, нажніц, паперы — і здольных людзей, якія могуць падзяліцца з іншымі выдатным настроем!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Да Адама Русака

Памяць знакамітага земляка, паэта-песенніка Адама Русака, ушанавалі на Капыльшчыне. Вось ён, дарожны знак «Малінаўка 1,3». Да роднай вёскі Адама Герасімавіча, як кажуць, рукой падаць. У дзень 110-гадовага юбілею паэта гэтым шляхам у госці да песняра завіталі беларускія пісьменнікі, артысты і сваякі.

Сярод іх — заслужаны дзеяч культуры краіны, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, паэт і бард Кастусь Цыбульскі, рэдактар літаратурных праграм беларускага радыё Галіна Шаблінская, паэтэса Іна Фралова, загадчыца культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка, артысты Белдзяржфілармоніі і, канечне, дачка паэта Людміла Русак.

Госці ўсклалі кветкі на магілу паэта. А затым падчас сустрэчы з навучэнцамі Песачанскай СШ імя С. А. Умрэйкі адбылася літаратурнае падарожжа на радзіму А. Русака. З цікавасцю наведалі музей у гэтай навучальнай установе. Уразіла ўсіх прысутных і выступленне народнага аркестра народных інструментаў «Капыльскія дудары». Л. Русак распавяла пра жыццё паэта на фоне фотавыстаўкі, размешчанай ў фае Песачанскага цэнтра культуры і вольнага часу. Завяршыў сустрэчу літаратурна-музычны спектакль артыстаў Белдзяржфілармоніі «Без песні я жыць не магу».

— Калі мы з сястрой вучыліся ў школе, то разумелі, што з'яўляемся дзецьмі вядомага чалавека распавяла Людміла Адамаўна. — Але з часам я адчула, што адказнасць за захаванне памяці Адама Русака ляжыць на мне. Таму раблю ўсё для таго, каб творчую спадчыну берaглі і шанавалі.

— Недзе ў чатыры гады я пачуў па радыё песню «Лясная» («Ой, бярозы ды сосны…») і потым сам спяваў яе. Бацька паслухаў і купіў мне акардэон. Гэтага хапіла, каб у душы нарадзілася жаданне пісаць песні. Таму зараз хочацца нізка пакланіцца Адаму Русаку, які адкрыў для мяне краіну Песні і Музыкі, — узгадаў Кастусь Цыбульскі.

— Я памятаю, як у пачатку 90-х гадоў у Ялце праходзіла сустрэча беларускіх, рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, па завяршэнні якой нас праводзілі прадстаўнікі мясцовай ўлады, — распавёў Генадзь Пашкоў. — І ўжо ў вагоне цягніка, калі мы праспявалі «Бывайце здаровы», украінцы сказалі: «Во беларусы малайцы — пераклалі нашу песню на сваю мову!» Бо песня стала міжнацыянальнай!

Ад імя гасціннай Капыльшчыны кветкі артыстам уручылі намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Капыльскага райвыканкама Наталля Гарбацэвіч і дырэктар Дзяржаўнай установы культуры «Капыльская раённая цэнтральная бібліятэка імя А. Астрэйкі» Таццяна Серая.

**Дзіяна ТКАЧЭНКА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**3 чэрвеня —** на вечар памяці паэта і перакладчыка Юрыя Сапажкова, які адбудзецца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (вул. Акадэмічная, 5). Пачатак а 18-й гадзіне.

**4 чэрвеня —** на літаратурнае свята «Пасвячэнне ў пісьменнікі», якое адбудзецца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (вул. Акадэмічная, 5). Пачатак а 16-й гадзіне.

**6 чэрвеня —** на паэтычнае свята, прысвечанае 215-годдзю з дня нараджэння А. С. Пушкіна. Імпрэза адбудзецца каля помніка паэту. Пачатак а 11-й гадзіне.

# Паэзія песні ды спектакля

Творчая вечарына паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Анастасіі Кузьмічовай «А бабочка тоже ведь птица…», прысвечаная яе юбілею і арганізаваная сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ, адбылася ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.

Гаспадыня імпрэзы нарадзілася ў сям'і з даўнімі мастацкімі традыцыямі. У 18 гадоў стала ўдзельніцай літаб'яднання «Светотень» пры газеце «Знамя юности», а пазней — сябрам літаб'яднання «Панядзелак». Друкавалася ў многіх гарадскіх і рэспубліканскіх перыядычных выданнях. Аўтар паэтычнага зборніка «Быть может меня приютят?» (2005), а таксама дыска з вершамі пад музыку «Яхидна» (2011).

На пачатку вечарыны яе вядучая, паэтэса Іна Фралова, уручыла творцы Ганаровую грамату Саюза пісьменнікаў Беларусі. Юбілярка прадставіла публіцы не толькі ўласныя вершы, але і музычна-паэтычны спектакль «Танцы с письмами» (рэжысёр — Генадзь Трубач, аўтар сцэнарыя — Віктар Танюкевіч), створаны паводле паэтычнага цыкла А. Кузьмічовай «Письма к Богу». Галоўныя ролі тут выконвалі сама аўтарка і малады паэт Арцём Цітоў. Адметнасцю пастаноўкі сталася яе музычнае афармленне, да якога спрычыніліся маладыя выканаўцы Надзея Бацвіннік (флейта), Анастасія Барысёнак (гітара) і Сцяпан Гуляеў (ударныя).

У гэты вечар перад публікай выступіла таксама салістка Белдзяржфілармоніі Нэлі Душчынская (мецца-сапрана). Пад акампанемент кампазітара Алены Храбровай (фартэпіяна) спявачка выканала некалькі песень на вершы А. Кузьмічовай.

**Яна ЯВІЧ**

# Пад небам Багданава

IV Рэгіянальны конкурс-пленэр «Зямля і неба Фердынанда», прысвечаны памяці вядомага мастака Фердынанда Рушчыца (1870 — 1936), які лічыцца заснавальнікам жанру рамантычнага пейзажа ў мастацтве Польшчы, Літвы і Беларусі, прайшоў у пасёлку Багданаў Валожынскага раёна. Паводле мастацтвазнаўцы Сяргея Гваздзёва, лепшыя палотны класіка былі створаны менавіта ў ваколіцах Багданава — родавага гнязда Рушчыцаў, дзе сёння знаходзіцца магіла мастака.

Пленэр арганізаваны Вішнеўскай дзіцячай школай мастацтваў, аддзелам ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама, Валожынскім раённым аддзяленнем грамадскага аб'яднання «Польска Мацеж Школьна», пры падтрымцы ААТ «Прыёрбанк».

У конкурсе ўзяло ўдзел каля 30 навучэнцаў мастацкіх школ і студый Валожынскага, Івянецкага і Вілейскага раёнаў. Конкурсная праграма складалася з дзвюх частак: завочнай, дзе ацэньваліся работы, падрыхтаваныя ўдзельнікамі загадзя, і асноўнай пленэрнай. У абедзвюх намінацыях перамаглі вучаніцы Валожынскай дзіцячай школы мастацтваў: Гран-пры ў пленэрнай праграме атрымала Кацярына Навіцкая, лепшым сярод завочных работ быў прызнаны твор Валерыі Усцюжанінай. Работы ўдзельнікаў ацэньваліся як па крытэрыі творчага пераасэнсавання матываў Рушчыца, так і па агульным мастацкім узроўні. Пераможцы былі ўзнагароджаны дыпломамі і падарункамі.

Падводзіла вынікі конкурсу аўтарытэтнае журы на чале з мастаком і педагогам Алесем Квяткоўскім — ініцыятарам пленэру. У склад журы таксама ўвайшлі вядомы мастак Георгій Скрыпнічэнка, старшыня Добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч (Ф. Рушчыц таксама ў свой час займаў аналагічную пасаду ў краі), і аўтар гэтых радкоў, які прадстаўляў Белгазпрамбанк — установу, што актыўна займаецца пытаннямі вяртання культурнай спадчыны.

Удзельнікаў і гасцей пленэру ўрачыста сустракалі ў Багданаўскім сельскім доме культуры, які нядаўна адкрыўся ў адрамантаваным будынку былога сельсавета. У доме культуры маюцца ўсе ўмовы для творчай і выставачнай дзейнасці. Арганізатары падзеі маюць спадзяванне, што на яго базе неўзабаве адчыніць свае дзверы і музей славутага земляка.



*Уладальніца гран-пры конкурсу Кацярына Навіцкая са сваёй работай.*

Восеннюю работы ўдзельнікаў IV Рэгіянальнага конкурсу-пленэру «Зямля і неба Фердынанда» можна будзе пабачыць на выстаўцы ў галерэі Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна.

**Алесь СУХАДОЛАЎ, фота аўтара**

# Мясціны родныя

Міхась Пазнякоў не першы і, як заверыў сам пісьменнік, не апошні раз завітаў да вучняў Глухскай школы імя маршала авіяцыі, Героя Савецкага Саюза Сцяпана Акімавіча Красоўскага, дзе і сам калісьці вучыўся.

Пісьменнік прывёз з сабой кампазітара Аляксандра Якіменку і маладую спявачку Наталлю Літвін.

— Калі быў малым, хацелася з'ехаць з вёскі, — успамінаў Міхась Паўлавіч. — За сваё жыццё я ўжо шмат дзе бываў, сустракаўся з цікавымі людзьмі. Але ж самымі дарагімі сэрцу засталіся мае родныя мясціны, землякі. Бо няма нічога лепей, калі ў тваёй душы жыве любоў да свайго роднага мястэчка.

Пра тое, што Міхась Пазнякоў не толькі добры паэт, празаік, але і таленавіты перакладчык, крытык, мовазнавец, гаварыў галоўны рэдактар раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя», пісьменнік Мікола Леўчанка. Па яго словах, Міхась Паўлавіч вельмі працавіты чалавек, які вырас у вялікай сялянскай сям'і. Ён не толькі сам шмат піша, а і дапамагае моладзі, рэдагуе вершы студэнтаў, старшакласнікаў, праводзіць конкурсы, каб выявіць маладыя таленты.

Сустрэча праходзіла пад назвай «Прыеду я абавязкова». Міхась Паўлавіч падараваў школе новыя кнігі ў бібліятэку, валейбольныя мячы, канцылярскія тавары, грошы на набыццё газонакасілкі для школы і абяцаў абавязкова завітаць у наступным годзе.

**Кацярына ЧЫГІРОВА, г. Быхаў**

# Агульнае ці адрознае

Ці ведаеце вы, што Канстанцін Заслонаў быў не толькі выдатным партызанскім камандзірам, але і таленавітым мастаком? А можа, чулі, у чым адметнасць чашніцкага варыянта адзення лепельскага строю? Ці можаце ўявіць, як мастак ствараў прыгожыя пейзажы левай рукой, бо правай яго пазбавіла нямецкая бомба?

Даведацца пра гэта можна было падчас выстаўкі «Рэгіёны Беларусі: Віцебшчына», якая праходзіла ў Лепельскім раённым краязнаўчым музеі і дала старт сумеснаму праекту трох музеяў Віцебскай вобласці: Лепельскага, Чашніцкага гісторычнага і Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны. Спачатку экспазіцыя «пераехала» ў Чашнікі, а цяпер яе можна ўбачыць у музеі драўлянай скульптуры Сямёна Шаўрова ў Оршы.

Ініцыятарам праекта стала дырэктар Лепельскага музея Аліна Стэльмах. Галоўная мэта — паказаць агульнае і адрознае ў гісторыі, культуры і сучасным жыцці Лепельскага, Чашніцкага і Аршанскага раёнаў, прыцягнуць увагу жыхароў суседніх рэгіёнаў Віцебшчыны да гісторыка-культурнай спадчыны. Наведвальнікі выставак даведаюцца нешта новае і пра сваю родную старонку.

Кожны музей прадставіў унікальныя экспанаты. Напрыклад, на лепельскай выстаўцы можна было пабачыць асабістыя рэчы і кнігі Уладзіміра Караткевіча, малюнкі Канстанціна Заслонава, карціны пейзажыста Васіля Жарнасека, фотаздымкі і дакументы пра Бярэзінскую водную сістэму, народныя строі Чашніцкага раёна.

**Юлія ПУХАВІЦКАЯ**

# Ваенны Мінск вачыма творцы

Нядаўна да нас, вучняў 9 «А» класа сталічнай школы № 77, завіталі Уладзімір Мацвеенка, ганаровы пісьменнік СПБ, які прайшоў праз цяжкія гады ваеннага ліхалецця, і паэтэса Іна Фралова.

Уладзіміру Іванавічу споўнілася 85 гадоў. Дзякуючы свайму госцю мы зірнулі на ваенны Мінск вачыма трынаццацігадовага хлопчыка. Падчас выступлення ветэрана ў класе панавала абсалютная цішыня…

Толькі гучны голас паэта распавядаў пра родны горад, народныя святыні. У. Мацвеенка прыгадаў і самага дарагога яму чалавека — маці. А колькі добрых слоў прагучала ў адрас настаўнікаў, якія дапамаглі Уладзіміру Іванавічу стаць паэтам, асобай!..

І хоць друкавацца Уладзімір Мацвеенка пачаў ужо ў сталым узросце, большая частка яго твораў прысвечана дзецям. Загадкі, сатырычныя творы, эпіграмы творцы друкуюцца ў часопісах «Бярозка», «Вясёлка» і «Пралеска». Маім аднакласнікам асабліва спадабаліся мудрыя жыццёвыя загадкі, якія не так лёгка было адгадаць.

**Анастасія РАТАМСКАЯ**

Міхась ПАЗНЯКОЎ



# Роднае

***

Дождж хлынуў нечакана,
Заляскаў гром зацята,
Ды зноўку — ратаваннем
Старая наша хата.

З ваконцамі-вачамі,
З ахоўнаю страхою,
Сустрэла, нібы мама,
Утульнай дабрынёю.

Пульсуе і сягоння
Тут лад наш самавіты:
У велічных іконах,
У татавых малітвах.

Ты кліч, вядзі, дарога
Штораз у кут адзіны…
Мілей няма нічога
За цеплыню Радзімы.

## Брату Мікалаю

Травяністы родны край,
Душна ад самоты.
Дзе ты, братка Мікалай,
Шмат у нас работы.

Зарастаюць поле, сад,
Без дагляду пчолы,
Мізарнее вінаград,
Дом твой невясёлы.

Мы не сходзім у грыбы.
Мы не зварым юшку.
Не расхвалім ля вярбы
Івалгу-пяюшку.

Пад вячэрні дзіўны зык
Не напаліш лазню.
Верны твой Мухтар панік
Ланцуговым вязнем.

Непрабудна між бяроз
Спіш, браток, з дзядамі.
Даўкі сум і горыч слёз
Час узвёў між намі…

***

Ізноўку дзень радасны, весні
Спявае, квітнее, звініць.
На крылах узрушанай песні
Душа маладая ляціць.

І светлыя, мілыя мроі,
Дарогі, што ўдалеч вядуць
Таемна і вабна прад ёю,
Нібы ўпершыню, паўстаюць.

***

Якія магутныя словы:
Радзіма. Матуля. Зямля…
Гаючай энергіяй мовы
Душу выратоўваю я.

Жніво. Збажына. Касавіца…
Узнёсла хілю галаву.
І небу шчаслівы маліцца,
Што гэткім багаццем жыву.

***

На луг паклікала ізноў
Рамонкавая замець,
І сум забытых вечароў
Ускалыхнула памяць.

Тут на пялёстках залатых
Ты мне каханне згадала.
Быў цэлы свет нам на дваіх,
Ды і яго было замала.

Вянком абвіўшыся жывым
Гайдаліся, нібыта ў моры,
На хвалях пахкае травы,
Ажно зайздросцілі нам зоры.

Ды тайна існага сама
Неспасцігальная такая…
Нічога вечнага няма,
Усё прыходзіць і знікае.

Валянцін СЕМЯНЯКА



## Валерыі Кліцуновай

Адпачывайце на вёсцы —
Там, дзе жыццё пачалося,
Там, дзе таемнае штосьці
Шэпча пад ветрам калоссе.

Там, дзе блакітнае неба
Ціхі спакой абяцае,
Там, дзе ад водару хлеба
Дух паміжволі займае.

Адпачывайце на вёсцы —
Там, дзе крамяныя ранкі,
Там, дзе барвовае сонца
Вас сустракае на ганку.

Дзе не забыліся Бога,
Не адышлі ад традыцый,
Каб адрачыся чужога
І да свайго далучыцца.

Адпачывайце на вёсцы —
Там, дзе вас моцна чакаюць,
Там, дзе вас любяць бясконца
І, як сяброў, сустракаюць.

…Птушак звініць шматгалоссе —
Шчыра, прыгожа, напеўна.
З вёскі жыццё пачалося —
Тут і прадоўжыцца, пэўна.

## Вогнішча

Вогнішча на беразе ракі
Свеціць, як апошняя надзея.
Тут прытулак знойдуць рыбакі,
Тут і падарожных абагрэюць.
Ля агню — свято і цеплыня.
А наўкол — начная прахалода.
Ступіш крок, і цемра, як сцяна,
Праглыне з каварнай асалодай.
Закіпіць вада у кацялку —
Будзе кава, будзе і да кавы.
Хто засмажыць сала на калку,
Хто раскажа выпадак цікавы.
Не заснуць да ранку дружбакі,
Абмяркуюць свежыя падзеі —
Вогнішча на беразе ракі
Свеціць, як апошняя надзея.

## З табой

З табой — як на вайне:
То «бомбы», то «снарады».
Не знаю, дзе рване,
Адкуль чакаць нападу.

Так цяжка адгадаць,
Чым рэха адзавецца —
Ці плакаць, ці скакаць
Знянацку давядзецца.

І нельга прадказаць,
Што ты цяпер рыхтуеш —
Ці будзеш адступаць,
Ці зноў заатакуеш.

А ў мірныя часы,
Што так бываюць рэдка,
Пазіцый не здасі —
Выконваеш разведку.

Па голасе тваім
Я з першых сказаў чую,
Ці б'еш ты баявым,
Ці так — ухаластую.

Затым з апошніх сіл
Будую абарону,
Чакаю, што здасі
Хоць колькі бастыёнаў.

І так вось кожны дзень:
То плачам, то смяёмся.
І цалкам без надзей
Перамагчы імкнёмся.

Навошта ж нам вайна?
Я ўжо даўно ў палоне.
Валодай мной спаўна —
Усё ў тваіх далонях!



Фота Кастуся Дробава

Марыя ДЗЮБАК



## Проста жыву

Жыву гэтым захадам,
восеньскім небам
Колераў незвычайных.
Проста жыву.
І няма ў тым патрэбы,
Каб быць маладой і адчайнай.

Словам жыву. Сваёй думкаю шчыраю
У вершах, як быццам на споведзі.
Стала, жыццё, ты параненай ліраю
У простым маім аповедзе.

Верай жыву. І жыву я ўспамінамі
Аб даўнім і незабыўным
Свеце дзяцінства, які мы пакінулі,
Свеце святым і наіўным.

***

Лісточак пажоўклы на плоце,
Кліч жураўлёў на балоце.
Ядловец калючы-калючы.
Душы балюча-балюча…

***

Космас. Магнітныя буры. Вакуум.
Задыхнуцца лёгка ад слоў.
І маўчаць у адказ. А заплакаць бы —
І дабром адказаць не зло…

***

Чорнае вецце бяроз
на фоне шэрага неба,
а на душы — мароз
і — непатрэбнасць…

***

Не ратуюць ні вершы, ні песні.
Як глухая, душа маркоціцца.
Я прашу, я малю: —
Уваскрэсні!
А душы ўваскрасаць не хочацца.

***

Тады пісьменства
сапраўды прыгожае,
Як мала слоў,
іх глыбіня, як мора,
і думак незвычайнасць
заваражвае.
За імі — несмяротнасці прастора.

***

Змрок замроіўся, дождж несупынны.
Адзінота маркоціцца, быццам дзіця.
Быццам штосьці
адбыцца такое павінна,
Што адпрэчыць ці верне мяне
з забыцця.

***

Мы ўсе, людзі, прыходзім да Бога.
І у тым толькі справа — калі:
Толькі ў Небе, на Суд Яго строгі?
Ці ўсё ж тут, на грэшнай Зямлі?

* * *

Баючыся, я спытала ў адзіноты:
— Адзінота, ты — ужо? Нашто ты?
І — нічога… Я цяпер з ахвотай
З безвыходнаю сябрую адзінотай.



# Яўген ХВАЛЕЙ

## *Навелы*

### «ОЙ, МАМКА МАЯ...»

Васіліна ў чарговы раз прыйшла з вядром да майго калодзежа ў закутку двара, пад высокімі, тоўстымі таполямі. Асцярожна апускае пустое вядро ў калодзеж, затым паволі яго, поўнае, выцягвае, ставіць на зруб, вылівае ваду ў сваё вядзерца. На маё пытанне, чаму яна бярэ ваду ў маім калодзежы, маючы свой, Васіліна адказвае:

— Ваша вада смачнейшая...

Да дзіўных паводзін Васіліны вяскоўцы прывыклі. Яна вельмі рана, калі толькі цямнее, кладзецца спаць. Гэтак жа рана ўстае. Можа летам пад першых пеўняў, заклаўшы рукі за спіну, прашпацыраваць па вуліцы з тым жа пецем-пеюном. Не баіцца зімой снягоў і маразоў, а вясной — дажджоў.

Васіліне ідзе семдзесят сёмы год. А памяць, як тая кінастужка, захавала ўсё...

...Да ліхалецця маленькая Васілінка любіла збіраць у тутэйшых лясах ягады. Разам з мамай Кацярынай. Але грымнула вайна. Немцы наляцелі на Калюжыцу нечакана. Кацярына з немаўлём на руках і Васілінкай, як і суседзі, кінуліся ў ягадны лес, што цягнуўся да Восава. Ускочылі ў пералесак. Здавалася, выратаваліся. Але, як на тое, па шашы ехалі фашысты на матацыклах і машынах. Пярэдні матацыкліст спыніў калону, відаць, заўважыў уцекачоў. З грузавікоў павыскоквалі фашысты з аўтаматамі і кінуліся наўздагон. Думалі, што партызаны. Застрачылі па кустах, соснах і елках. Кацярына бегла апошняй, усё-ткі дзіця на руках. А Васілінка ладна адбеглася. Кацярына змаглася, не заўважылі немцы. Аўтаматная чарга прашыла жанчыну разам з немаўлём. Кацярына ляжала сярод моху, сцякаючы крывёй. Дзіцятка яшчэ поўзала па ёй, але хутка і яно сціхла. Далей фашысты не пабеглі — меркавалі, што гэта і ёсць тыя ўцекачы-партызаны. Васілінка, пачуўшы, што сціхлі стрэлы, спынілася. Што рабіць далей? Наперадзе вялікі, страшны лес. Вырашыла вярнуцца назад і па сваіх слядах дайшла да таго месца, дзе ляжала мама з немаўлём. Пачала крычаць, штурхаючы іх. Але мама і маленькая сястрычка маўчалі. «Ой, мамка мая...» — вырвалася тады з грудзей Васілінкі.

Гэты адчай, як малітва, будзе з ёю ўсё жыццё. Паўтарае горкія словы Васіліна Паўлаўна Несцяровіч і сёння. Дзе б ні ішла, што б ні рабіла...

«Ой, мамка мая... — Жыву адна, хоць і выгадавала дзяцей», — скажа яна пры чарговай сустрэчы са мной. І далей крочыць па вуліцы. Ходзіць суседка тут некалькі разоў за дзень. «Так лягчэй памяці», — прамовіць Васіліна. А яна, памяць, ужо многа чаго не трымае. Але той страшны дзень грозных саракавых не выпусціць на вецер ніколі. Ён чэпка засеў, як той асколак у дрэве, у сэрцы...

«Ой, мамка мая...»

### ПАЛАНЯНКА НІНКА

Ніне Адамаўне сёння пад восемдзесят пяць. Управіўшыся са сваёй немаленькай гаспадаркай — карова, свінні, гусі, куры, — яна садзіцца ў святліцы каля абразоў і пачынае ўспамінаць... Не, хутчэй яны, успаміны, як тыя кінакадры, набягаюць самахоць, трывожаць душу, сціснаюць сэрца. Ад іх нікуды не дзецца. Яны — да канца жыцця...

...Яе, трынаццацігадовую дзяўчынку, і старога бацьку фашысты схапілі за дапамогу партызанам і павезлі ў Бярэзань. Кінулі ў турму. Колькі прасядзелі там, малая Нінка не магла ведаць. Аднойчы яна пачула рыпенне турэмных дзвярэй, якія нехта адчыняў. Хутка ўбачыла чалавека ў форме паліцая. Той гучна скамандаваў: «Усім выходзіць на двор!» Зняволеныя адзін за адным пасунуліся на выхад. З імі — Нінка і яе бацька. За агароджай стаяў грузавік, крыты тэнтам. «Усё... Павязуць на расстрэл, як тых яўрэяў...» — падумаў Адам. І не памыліўся. Усіх пасадзілі ў грузавік і павезлі ў Трасцянку, туды, дзе некалькі дзён назад расстрэльвалі яўрэяў. Там сярод лесу быў выкапаны глыбокі роў. Па дарозе Адам, былы будзёнавец, дамовіўся з паліцаем (знаёмым, нешта да вайны рабілі разам), які з вінтоўкай сядзеў побач у кузаве, каб той выручыў. Калі ўехалі ў лес і машына па калдобінах пайшла вельмі ціха, паліцай раптам пачаў страляць уверх, быццам збег нейкі нявольнік. А з машыны і сапраўды пачалі выкульвацца, хто мог. Саскочылі і Адам з Нінкай, ірванулі ў зараснікі. Пакуль ачомаліся астатнія паліцаі, іх і след прастыў. Бацька з дачкой дабеглі да вёскі Пружанкі. А там — зноў немцы. «Партызан! Партызан!» Схапілі Адама і Нінку і зноў прывезлі ў Бярэзань у тую ж турму. Там даказалі, што яны ўцекачы з грузавіка, — выдаў другі паліцай. Праз нейкі час фашысты везлі іх з нявольнікамі на стадыён. Прысуд — павесіць, каб іншым боязна было ўцякаць з палону. Ужо вывелі з машыны — ішлі на верную смерць, туды, дзе стаялі шыбеніцы. І раптам — о цуд! — у небе з'явіліся савецкія самалёты і пачалі скідваць бомбы. Усе палеглі, а калі ўсталі, то адзінкі. Між іх засталіся некранутыя асколкамі Адам і Нінка. Ім удалося ўцячы ў Старую Калюжыцу, дзе могілкі з фамільным склепам родзічаў графа Ваньковіча. Нейкі час хаваліся ў гэтым склепе. Але сядзець без ежы і вады ў халодным лёху доўга не будзеш. Вырашылі ноччу пайсці дамоў, у вёску. А там — немцы, паліцаі. Раніцой яны хадзілі па хатах і зганялі маладых дзяўчат у цэнтр вёскі, дзе стаяў крыты грузавік. Нінку ў хаце вырвалі з рук маці і бацькі і павалаклі ў машыну. Кінулі да іншых дзяўчат, зашчапілі борт і павезлі ў Барысаў. «Дзень гэты быў — о, каб ведалі тады фашысты! — 9 мая 1944 года, за год да Вялікай Перамогі», — гаворыць Ніна Адамаўна.

З Барысава нявольніц везлі цягнікоm-цялятнікам у фашысцкае рабства. Час ад часу цягнік трапляў пад бамбёжку. Спыніліся ў Варшаве. Нінку, яе стрыечную сястру і яшчэ 15 дзяўчат узяў да сябе польскі пан — палолі грады. Але пасля таго, як партызаны забілі гаспадара, іх зноў пагрузілі ў цягнік і павезлі на захад. Урэшце спыніліся ў французскім Страсбургу. Дзяўчат пад канвоем павялі ў горы. Шэсць дзён ішлі, не еўшы, толькі пілі ваду. І вось ён — сакрэтны авіяцыйны завод. Тут і пакінулі паланянак — дзяўчат з Беларусі, Украіны, Польшчы. Рабілі нейкія дэталі да самалётаў. «Што гэта была за праца —Бог ведае. А кармілі адной бручкай на конскай крыві. На суткі давалі 180 грамаў хлеба. Але траплялiся на заводзе і добрыя людзі, французы. Яны прыносілі нам, паланянкам, булачкі, часам абутак, адзенне», — успамінае Ніна Адамаўна.

Прасоўваўся наперад другі, заходні фронт. Амерыканцы моцна бамбілі французскую тэрыторыю, дзе даўно ўжо гаспадарылі немцы. На авіяцыйны завод таксама пачалі падаць бомбы, разбураць яго. Аднойчы галоўны ўпраўляючы завода, немец, скамандаваў: «Усім забіраць свае рэчы і ўцякаць у горы хто куды!» Ішлі дзяўчаты па тых гарах галодныя і халодныя. Праз тыдні два трапілі ў горад Каматау. Пераначавалі ў ім, развялі касцёр, наварылі бульбы. Дамы былі пустыя — жыхары ўцяклі. Назаўтра прыйшлі манашкі, накармілі дзяўчат. Наступнай раніцой падняліся, крыху акрыяўшы, а тут пад'ехалі два савецкія матацыклісты і апавясцілі: «Вайна скончылася. Ура!»

Тысячы людзей ішлі шашой на Усход. Дабралася і Нінка да нямецкага горада Дрэздэна. Там — праверка ўрачоў, лагер для перамешчаных асоб. Шмат было сталовак. Хоць цяпер яна наелася.

«Усім хацелася хутчэй дамоў. Нарэшце чыгункай мы ехалі на Радзіму, радасныя, шчаслівыя. Прыехалі ў Барысаў, адкуль нас і забіралі ў няволю. З Барысава праз Чарневічы я пехам дайшла да сваёй роднай Калюжыцы. Шчасцю не было канца!» — падсумавала ўспаміны Ніна Адамаўна Несцяровіч.

Я зноў і зноў здзіўляюся мужнасці, стойкасці калюжанскай дзяўчынкі, цяпер гэтай маленькай, ужо прыгорбленай бабулі. За плячыма яе — такі вялікі і такі цярністы жыццёвы шлях.

### ШЛЯХ САЛДАТА

У вёсцы Старая Уша непадалёк ад рэчкі жыве дачка былога ветэрана вайны Тамара Аляксееўна Макарэвіч. У гэтым доме да нядаўняга часу жыў і яе 92-гадовы бацька Аляксей Аляксеевіч.

— Бацька быў магутнага складу і да канца славіўся аптымістам і весельчаком, — расказвае дачка.

Аляксей Аляксеевіч нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Шавярнічы. Да вайны яго выбралі старшынёй калгаса ў Альхоўцы. У пачатку акупацыі ён цудам пазбег расстрэлу. І пайшоў Аляксей помсціць ворагам ва Усакінскія партызанскія лясы, што на Магілёўшчыне. З верасня сорак першага па ліпень сорак чацвёртага года ён ваяваў у партызанскім атрадзе № 120.

Быў сувязным, не раз наведваў сваю родную Бярэзіншчыну. Стаў спачатку камандзірам аддзялення, а потым — узвода, быў палітруком. Колькі гераічных партызанскіх учынкаў з удзелам Аляксея Макарэвіча было здзейснена за гэты час! Былі і засады, і напады, і падрывы камунікацый ворага. Але адзін эпізод з партызанскага жыцця яму запомніўся назаўсёды.

У роднай вёсцы Шавярнічы, як на злосць, у іх хаце, часова размясціўся штаб нямецкай часці. Аляксей атрымаў заданне знішчыць яго. Але як? У хаце жыве ягоная маці. Сын, здзецца, прадумаў усё: хату з фашысцкімі афіцэрамі ён падарве, калі маці адыдзецца з двара. І вось яна стаіць на ганку, апранутая, некуды сабралася. Аляксей сочыць з засады. «Мама, хутчэй, хутчэй пакідай нашу хату», — шапталі вусны сына. Але раптам маці вярнулі ў хату нямецкія афіцэры. Ды праз дзень штаб усё-ткі будзе разгромлены. Але ворагі не даруюць Аляксею гэты подзвіг. Яго маладая жонка памрэ ад пабояў і страху, ад боязі за мужа і дзяцей. Застануцца толькі два маленькія сыны — Толя ды Валодзя.

Пазней шлях партызана, цяпер байца Першага Беларускага фронту, якім камандаваў Жукаў, праляжа праз усю Еўропу. Аляксей Макарэвіч служыў у восемдзесят першым артылерыйскім палку. Ён вызваляў беларускія гарады Калінкавічы, Мазыр, Гомель, польскую Варшаву, чэхаславацкую Прагу. А за прарывы абароны фашыстаў на рэках Друць, Вісла, нямецкай Памераніі, Берлінскага напрамку, ліквідацыю акружанай групы ворага на паўднёвым усходзе Берліна сам Сталін аб'явіць падзяку часці, у якой служыў Аляксей Макарэвіч.

За подзвігі Аляксей Аляксеевіч узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны другой ступені, медалём «За баявыя заслугі», іншымі медалямі.

Цікавы лёс і яго роднага брата Аляксандра. Ударнік-энтузіяст трыццатых гадоў, ён у вайну даслужыцца да звання маёра, пасябруе з беларусам маршалам Якубоўскім, у складзе арміі якога служыў Аляксандр, і будзе перапісвацца з ім да самай смерці палкаводца. Пасля вайны Аляксандр Макарэвіч доўгі час працаваў у Бярэзінскім райкаме партыі.

Аляксей Аляксеевіч быў прызначаны старшынёй Ушанскага сельскага Савета і на цэлых шэсцьдзясят гадоў асеў у вёсцы над прыгожай рэчкай Ушой. Выгадаваў двух сыноў-сірот ды дачку Тамару.

Ушанскія могілкі сталі апошнім жыццёвым прыстанкам салдата вялікай вайны Аляксея Макарэвіча. Пяць гадоў таму яго тут пахавалі.



# Маленькія вар'яты буйным планам

Усю літаратуру так ці іначай можна назваць гісторыяй хваробы чалавецтва, і ў кожную эпоху — ды што там, нават дзесяцігоддзе —хваробы свае. Праўда, застаюцца і вечныя, невылечныя пакуты, якія вырастаюць з самое нашае прыроды, галоўная з якіх, напэўна, пошук «сэнсу жыцця».




Часопіс «Нёман» у № 4 надрукаваў падборку апавяданняў нямецкіх аўтараў. У прадмове да яе перакладчыца Юлія Саўрыцкая слушна заўважыла, што жыццё — вялікае індывідуальнае вар'яцтва. Сапраўды, кожны з герояў у прадстаўленых творах — чалавек хворы, нават вар'ят. Але што гэта за хваробы? І ці ёсць ад іх лекі?

### МЕТАМАРФОЗЫ ЗАЛЕЖНАСЦІ

«Кашмір як наркотык», — нахвальвае тавар прадаўшчыца, звяртаючыся да гераіні апавядання «Кашмір» (Дорыс Дзёры). Яе гэта інтрыгуе, але мусіла насцярожыць: зусім нядаўна гераіня пазбавілася ад іншай залежнасці — непамернай любові да ежы. Дасюль у яе шафе вісяць — як строгі напамін — шырокія адзежы, «пачварападобныя намёты». І як напамін жывы — каханы Фрэд, разам з якім яны імкнуліся да вялікай мары — худзізны, — аднак ён не здолеў.

Зачараваная мяккасцю кашміру, яна трапляе пад уладу новай залежнасці. І тады: «Насупраць, на трэцім паверсе, бачу вокны нашай кватэры. Вязіны цень блукае па сцяне ў спальні — пачвара з маленькай галавой і груваcткім целам. Ён выцягвае рукі, яны вырастаюць па сцяне да самай столі — святло згасае, тоўсты чалавек мёртвы».

У гэтай гісторыі можна ўбачыць хваробу сучаснасці, выкліканую ўсеагульным спажывальніцтвам, — залежнасць ад рэчаў. Але шырэй апавяданне апісвае слабасць чалавека: не ў стане застацца сам-насам з сабою, чалавек кідаецца ў залежнасць як у паратунак.

Спадарыня Дорыс не тлумачыць, як выйсці з зачараванага кола. Але прызнаць сябе хворым — ужо крок да выздараўлення.

### ШАМАНЫ XXI СТАГОДДЗЯ

Апавяданне Хельгі Леб «Джонатан ведае аднаго лекара» — гэта сумная ўсмешка, адрасаваная іншай слабасці чалавека. Запалоханы жудасцямі, якія актыўна транслююць усемагчымыя СМІ, чалавек шукае падтрымкі ў ведуноў, варажбітак, бабак-шаптух (гэта ўжо да беларускай рэчаіснасці). Натуральна, яны дапамагаюць, бо, як правіла, патрэбныя чалавеку не лекі, а ўсяго толькі падтрымка, і ведуны-варажбіткі-шаптухі пра гэта ведаюць.

Звычайная сям'я. Хлопчыкі здаюць іспыты, маці ім дапамагае і, канечне, нервуецца. Бацька заўважае, што яна схуднела, і раіць ёй наведацца да цудалекара: «Шнальса-Пэры ведае кожны ў гэтым горадзе. Ён натуратэрапеўт, усе, хто хоць бы раз у яго пабывалі, моляцца на яго».

З гумарам, які мяжуе з сатырай, пісьменніца распавядае, як цудалекар ставіць дыягназ за дыягназам — мігрэнь, хворыя зубы і страўнік, метэарызм, аняменне канечнасцей, — пры тым, што гераіня на гэта не пакутуе. Урэшце, пацыентка пачуваецца вінаватаю, бо так і не спраўдзіла давер доктара.

У любым узросце чалавек «обманываться рад», але самападман можа прывесці да трагедыі. Хельга Леб прапануе простую, але дзейсную абарону — смех.

### ТЫ ЭГАІСТ, А Я НЕ

Чалавек, нават самы харошы, любіць сябе болей, чым яму здаецца.

Сям'я, праца, пакрыўджаная эга, нячуласць свая і чужая, крывыя люстэркі, расстаўленыя вакол нас жыццём і намі саміні — усё гэта змешана ў апавяданні Габрыэлы Воман «Вокны мыюць упоперак». Галоўны герой Марвін абураецца бацькам сваёй дзяўчыны, абмежаваным, самазадаволеным эгаістам; захапляецца сваёй дзяўчынай, разумніцай-прыгажуняй; і спачувае яе маці, нават больш: яе пакора перад мужам здаецца яму подзвігам, пакутніцтвам, і ён пачынае адчуваць дзіўнае прыцягненне да патэнцыяльнай цешчы. Прапарцыянальна любові і спачуванню жанчынам расце яго непрыязнасць да «цесця».

І вось ён, пераломны момант: хлопец паказвае ўсёй сям'і свой рэкламны фільм (ён рэжысёр), а ў адказ атрымлівае абыякавасць, нават непрыняцце — фільм не спадабаўся. І адбываецца дзіўная рэч: дзяўчына з разумніцы-прыгажуні ператвараецца ў раздражняльную эгаістку, яе маці — з ціхай пакутніцы ў банальную дурніцу, а бацька раптам перастае быць агідным. Урэшце, калі той крытыкуе жончына мыццё вокнаў, заяўляючы, што іх мыюць не ўздоўж, а ўпоперак, герой падхоплівае рэпліку і паўтарае яе: так-так, толькі ўпоперак. Пакрыўджанае эга ўзяло верх.

Мы не ідэальныя, дык ці варта крытыкаваць іншых, тым больш — павучаць?

### І ЯШЧЭ ТРОХУ ВАР'ЯЦТВА

Сабіна Рэбер апавяданнем «Сунічначырвоны» і майстар імпрэсіянізму Артур Шніцлер гісторыяй пад назвай "Я" працягваюць тэму чалавечых слабасцей, хвароб і шаленства. Калі папярэднія творы мелі больш рэалістычную афарбоўку, апошнія два міжволі прыводзяць на розум імя Гофмана — не столькі вобразнымі сродкамі ці стылем, колькі настроем, дзіўным ап'яненнем, якое пачынае здавацца натуральным станам душы.

Сабіна Рэбер у нервовай, урывістай манеры раскрывае нашую сувязь з прыродай, якая можа быць і гаючай, і пагібельнай, а таксама сілу прыроды — як нечага дзікага, сунічна-чырвонага — у нас саміх.

Вар'яцтва героя апавядання Шніцлера таксама выклікана прыродай — вербальнай прыродай чалавечага існавання. Словы і рэчы намёртва зрасліся, а мы жылі ў свеце-тэксце задоўга да таго, як пра гэта *сказалі* постмадэрністы. Герой, заўважыўшы неадольную ўладу слова, патрапіў у пастку: паўсюль ён бачыць толькі словы, назвы, і без іх рэч ужо не можа існаваць. Падобны эфект мы атрымаем, калі, ідучы, задумаемся пра хадзьбу: вось правая, вось левая — і ўрэшце мы спатыкнёмся. Спатыкнуўся і розум героя. Сёння, калі грамадства завецца інфармацыйным, апавяданне, напісанае больш як стагоддзе таму, надзвычай актуальнае.

Зрэшты, вы разумееце, што гэтыя трактоўкі — погляд аднаго чалавека і што лепей за вас саміх ніхто і ніякі твор вам не патлумачыць.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Навука як мастацтва

Артыкул Васіля Старычонка («Полымя» № 4), прысвечаны другасным займеннікавым намінацыям у структуры мастацкіх тэкстаў, — выдатны прыклад сур'ёзнага літаратуразнаўчага даследавання, падрыхтаванага для часопіснай публікацыі. Многія паэтаў — ад Янкі Купалы да Л. Галубовіча — яднае выкарыстанне аўтаметафар, дзе першы кампанент прадстаўлены асабовым займеннікам, а другі «ў вобразнай форме раскрывае змест асабовых займеннікаў, рэалізуе яго семантычныя патэнцыі ў выглядзе пэўных замяшчальнікаў» (***Я мужык-беларус***, *— // Пан сахі і касы…*; ***Я — раб паэзіі****…*) — і В. Старычонак аналізуе, класіфікуе каля сотні цытат, якія пераканаўча сведчаць пра актуальнасць прадмета даследавання.




У добрай літаратуразнаўчай рабоце фактычны матэрыял каштоўны толькі як нагода для абагульнення і выяўлення заканамернасцей, і аб'ём цытат у артыкуле аптымальна суадносіцца з наяўнасцю ўніверсальных высноў. Галоўнае ж, што сабраны матэрыял можа інтэрпрэтавацца кожны, прычым не абавязкова ў навуковым рэчышчы. Так, з аднаго боку, перавага аўтаметафар над іншымі супазітыўнымі метафарамі (з займеннікамі *ты, мы, вы*) сцвярджае безумоўны эгацэнтрызм паэзіі. З іншага боку аўтаметафара — галоўная магчымасць вызначыць сябе, дакладна паведаміць, ад імя каго гучыць паэтычны маналог. Відавочна, што супазітыўныя метафары звычайна выкарыстоўваюцца ў высокім стылі, паэт выяўляе *сябе, яе, іх* як значныя, вартыя ўвагі вобразы, і выключэнняў у гэтай катэгорыі адносна няшмат. Зрэшты, сінтаксічныя канструкцыі, пабудаваныя па схеме *«дзейнік — працэжнік — выказнік»* часта выкарыстоўваюцца ў паэзіі: такія сказы атрымліваюцца лаканічнымі, ёмістымі і эфектнымі. Так артыкул, які напачатку небяспечна шчэрыцца навуковай тэрміналогіяй, можа апынуцца карысным і на 30 працэнтаў паэтычным!

«Полымя» працягвае добрую традыцыю і нагадвае пра яшчэ аднаго аўтара, імя якога не знаходзіцца ў першых радках чытацкага рэйтынгу. Эмануіл Іофе распавядае пра «беларускага Андэрсена» — дзіцячага пісьменніка Алеся Якімовіча, які наладзіў выданне часопіса «Бярозка» і напісаў тэтралогію для дзяцей — «мастацкую хроніку жыцця беларускай вёскі ад 50-х гадоў XIX стагоддзя па 1918 год».

Валерый Максімовіч у артыкуле «Беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя: еўрапейскі кантэкст» разглядае творчасць М. Багдановіча як паэта, не чужаснага мадэрнізму. Для пачатку літаратуразнаўца абараняе мадэрнізм ад тых, хто лічыць яго «непаўнавартасным кірункам, які нібыта падрывае асновы класічнага, высокага мастацтва», але сімпатыі В. Максімовіча відавочна не на баку «эстэтызацыі» індывідуалізму, «мастацтва дзеля мастацтва» і «крызіснай» свядомасці. Пры гэтым даследчык тлумачыць прычыны рознасці ў светапоглядзе еўрапейскіх і беларускіх творцаў пачатку XX стагоддзя. Захапленне артыкулам магло быць і большым, калі б даследчык для публікацыі ў «Полымі» крыху развіў трэцюю главу другога раздзела са сваёй манаграфіі «Шляхам спазнання ісціны». На жаль, тэкст з кнігі, выдадзенай тры гады таму, трапіў на старонкі часопіса амаль без змен, і такія выпадкі ў нашых выданнях здараліся неадночы.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Левітуем!

Чацвёрты нумар «Маладосці» прысвечаны даўняму рэдакцыйнаму праекту — часопісу ў часопісе «Фантаст», які гэтым разам атрымлівае і своеасаблівае ўзнаўленне. Празаічныя творы розных жанраў сучаснай фантастыкі чаргуюцца з паэтычнымі падборкамі — не тое каб фантастычнымі, але дакладна не трывіяльнымі.

Мужчыны-паэты любяць пісаць пра важныя і сур'ёзныя рэчы, але рэдка прысвячаюць вершы цякарнай жонцы альбо сынам. Адам Шостак робіць гэта без сентыментальнасці, пафасу ці ідэалізацыі: цякарнасць — колы Эйлера, «дзве клеткі злучаюцца // і інтэнсіўна пачынаюць падзяляцца // так проста і складана // пачынаецца новае жыццё». Кася Глухоўская і Маргарыта Латышкевіч не спяшаюцца далучацца да адвечна паэтычнай самоты, узнёсласці, захаплення ці пошуку ісціны. Паэзія — гэта фантастычная разнастайнасць яркіх вобразаў, здольнасць ляцець разам з птушкай, апынуцца ў пячоры дракона і на карыдзе ў зорным небе. Асобныя вершы падаюцца крыху стракатымі, і змрачнавата выглядае побач з імі «Дзікае паляванне» Юліі Анацка — па матывах Караткевіча і Багдановіча, — дзе скачуць вершнікі, забітыя і забытыя злыбядою.

Празаічныя творы на некалькі старонак затрымліваюць у сучаснасці, а потым дазваляюць апынуцца ў будучыні, у мінулым, у ляснай хаціне, дзе жыве сям'я спадара Смерці («Эглея» Данііла Жугжды). Свет будучыні найчасцей знаёмы чытачу паводле навуковай фантастыкі, і «нерэальны» сюжэт патрэбны аўтарам, каб сказаць штосьці істотнае: іншапланетнік Клёан з апавядання М. Латышкевіч здзіўляецца нелагічнай чалавечай самаахвярнасці, калі справа датычыць Ідэі і Мары, Аксана Бязлепкіна закранае праблему пераадолення адмоўных эмоцый і ўспамінаў. Але здараецца, што будучыня апынаецца казачна дзівоснай: тут жывуць не толькі Дзеці Зямлі, але і людзі-амфібіі ды людзі-птушкі, якія працуюць мыйшчыкамі вокнаў і абавязаны ўдзельнічаць у «работах па аднаўленні азонавага слою» («Дзіця Зямлі» Алёны Беланожка). У фантастычных дэкарацыях лепш глядзіцца і звычайны любоўны трохкутнік, і «няроўнае» каханне, якое мае коранем нязгоду з сацыяльным прадвызначэннем.

Свет мінулага таксама можа быць розным: ад вельмі канкрэтнага адступлення Напалеонаўскай арміі да казачнага хранатопу еўрапейскай даўніны — як у кнігах Андэрсена, Перо ці братоў Грым і, зрэшты, як у «Спадарыне Трынозе» Кацярыны Мядзведзевай. Яе «маленькая аповесць» падаецца амаль шэдэўрам, хаця героі тут тыповыя, каларыт — класічна казачны. Справа нават не ў ладнай кампазіцыі і нечаканай развязцы, а ў тым, што гісторыя пра Блерту і яе бабулю расказана з душой і натхненнем.




Сюжэт апавяданняў Уладзіславы Гурыновіч можа хутка забыцца ў летній кругаверці, але пра Паляндру ды Ціхіх Людцаў распавядаюць вяскоўцы — выключнае ўражанне пакідае сакавітая, багатая мова, якая нячаста ўласцівая маладым аўтарам. Апавяданні Віктара Лупасіна "Лятучы калегіум" таксама цікавыя тым, як яны напісаныя, але ўжо на сінтаксічным узроўні: аўтар выдатна адчувае, калі трэба зрабіць паўзу, перапытаць, падкінуць прастамоўнае слова ці падліць каньячку. Так можна пісаць пра што заўгодна, не толькі пра ідэалізацыю ці зброю масавага знішчэння вырабу «Барбытхімфарму», і колькі будзе напісана, столькі і будзе гартаць старонкі ўдзячны чытач.

Між іншых выдатных твораў нумара — апавяданне Лаўрэна Юрагі «Галаадская пустыня», нарыс Пятра Васючэнкі «Пра цмока…» і пераклады сучасных замежных пісьменнікаў. Фантастычная «Маладосць» безумоўна вартая вялікага артыкула ад мэтра літаратурнай крытыкі Ірыны Шаўляковай. Чакаем і чытаем у майскім нумары!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Інкубатар для генія

## ДА ПЫТАННЯ ПРА ДЭТЭРМІНІЗМ ТВОРЧАСЦІ ЯКУБА КОЛАСА

**Кожны геній фарміруецца дзякуючы як агульным для ўсяго грамадства, так і індывідуальным чыннікам. У гэтым працэсе ёсць і, бясспрэчна, ірацыянальнае. Немагчыма разгадаць, чаму той ці іншы чалавек нараджаецца надзвычай адораным. Але адносна кожнага з геніяў можна казаць і пра тыя канкрэтныя крыніцы, якія наталілі патэнцыял таленту сваёй жыватворнай сілаю, стварылі ўмовы для раскрыцця. Напрыклад, малая радзіма, якая ў кожнага свая. Для Якуба Коласа «сонцам свяціла Наднямонне». Маці — чалавек, з якога пачынаецца адкрыццё сусвету, — таксама спрычыняецца да фарміравання індывіда (і не толькі па-боску адоранага). Геній Якуба Коласа максімальна ўвабраў мудрасць і дабрыню сваёй маці, непісьменнай сялянкі.**



Сустракаюцца фактары і зусім выключныя, супадзенне якіх у лёсах розных творцаў з'яўляецца малаверагодным. Да такіх у выпадку з Якубам Коласам адносіцца выхаванне малога Кастуся дзядзькам Антосем — кнігалюбам і цудоўным апавядальнікам. Рысы дзядзькі перадаліся пляменніку! На лёс семінарыста К. Міцкевіча таксама паўплываў педагагічны талент Фядота Кудрынскага, які падштурхнуў свайго вучня да беларускамоўнай стыхіі. Урэшце складаным, шматслойным чыннікам, у многім выгадаваным на глебе папярэдніх, стала турэмнае зняволенне настаўніка і бунтаўшчыка (1908 — 1911), шматгадовая (1915 — 1921) адарванасць ад Беларусі. Пазбаўленне волі і разлука з радзімай абвастрылі любоў да яе, каталізавалі натхненне і выяўленне творчага патэнцыялу, нават акрэслілі найбольш плённы перыяд у творчасці Якуба Коласа, калі нарадзіліся паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Моцна паўплывала на творчасць драматычнае становішча Бацькаўшчыны, якую падзялілі розныя палітычныя сілы, прычым такім чынам, што «родны кут» паэта (разам з маці) два з паловай дзесяцігоддзі (1915 — 1939) заставаўся для яго недаступным. Дый на той частцы краіны, куды вярнуўся пісьменнік пасля ваеннага ліхалецця, — у Савецкай Беларусі ўсё выглядала, відаць, не так, як уяўлялася.

Сума азначаных крыніц сфарміравала галоўныя вяршыні творчасці Якуба Коласа. Часава гэты працэс, «падсумаванне», сінтэз фактараў завяршаецца на пачатку 1920-х гг. — якраз тады, калі і склалася асноўнае кола твораў Якуба Коласа, якія ўжо пры першапублікацыях разглядаліся як шэдэўры — ацэнка, што з цягам часу толькі ўмацавалася. Сам творца таксама адзначае пералом у сваёй літаратурнай дзейнасці, пазначаючы яго 1925 г. (але робіць гэта ў 1930 г. ва ўмовах шчыльнай увагі з боку існага рэжыму): «Першы перыяд мае літаратурнае дзейнасці быў закончаны к 1925 г. З 1911 па 1921 г. у маёй літаратурнай рабоце былі вялікія перарывы, і толькі 1921 г., год майго звароту ў Савецкую Беларусь, і наступныя гады далі мне магчымасць поўнасцю аддацца літаратурнай рабоце і закончыць свае творы першага перыяду, пачатыя яшчэ ў астрозе ў 1910 — 1911 гг.»

Творца адбыўся — і з гэтай прычыны ў далейшым жыццёвыя калізіі ўжо не ўплывалі на яго так, як раней. Складаныя часы сталіншчыны, сусветная вайна, асабістыя страты, несумненна, не маглі не сказацца на натхненні паэта і, урэшце, на саміх творах. Так, жорсткія ўмовы існавання 1930-х гг. перайначылі гучанне ліры паэта (са шчырага на рэгламентаванае) у значнай ступені ідэалагемамі, хаця і тады Якуб Колас змог праявіць сябе творча: у філасофскай і пейзажнай лірыцы, перакладчыцкай дзейнасці, творах для дзяцей. Больш за тое, яго паэтычны геній заявіў пра надыходзячыя змены вершам «Пахаваная муза» (1925). Перадаўшы трыбуну свайму лірычнаму герою, сказаў, што муза, з якою «даволі блукалі… па свеце», «заснула», «змоўкла» — «і згаслі агні», а сам паэт «спявае з другою», знаходзячы апраўданне ў тым, што «такі ўжо наш свет». Былі і пазнейшыя неадпаведныя «генеральнай лініі партыі» творы. Аднак у цэлым паэт фактычна падаўся ў тую метафізічную прастору духоўнага і грамадска-палітычнага жыцця, якую прынята называць унутранай эміграцыяй. Яму, як і Янку Купалу, заставаліся толькі «сны аб Беларусі». Такім чынам, узрушэнні рэпрэсіўных 1930-х гг. сталіся хутчэй антыфактарам для творцы. Нават «у стол» пісаць было немагчыма праз пагрозу вобыскаў (прынамсі, адзін меў месца ў Коласавым доме).

Важкім аказаўся здабытак Коласавай творчасці ваеннага перыяду, за што яму была справядліва прысуджана дзяржаўная прэмія першай ступені (тады яна называлася Сталінскай). Ды такіх звышмагутных, гучных твораў, як, прыкладам, верш «Шалёнага пса — на ланцуг!», напісаны ў першы дзень фашысцкай навалы і апублікаваны на мове арыгінала адразу ў цэнтральных беларускіх («Звязда» і «Советская Белоруссия») і саюзнай («Правда») газетах, было зусім няшмат. З цягам часу творчасць Якуба Коласа ваеннага перыяду адышла ў цень. Адна з прычын гэтага — брак асабістага досведу. Няма падстаў не давяраць Максіму Лужаніну, які, імаверна, абапіраючыся на аповед самога народнага паэта, пісаў, у прыватнасці, пра стварэнне паэмы «Адплата»: «Пасля ўступу хацелася паказаць баявое жыццё партызанаў і пагарэльцаў у лясах. Колас ведаў гэта толькі па газетах, а тут патрэбна было калі не сваё вока, дык хай бы і трохі менш вострае, але такое, што аглядала там усё само, каб ператварыць убачанае ў жывы і цікавы расказ». Гэта ж адчуў і Максім Танк, які даў адну з першых (ішоў 1944 г.) нефармальных ацэнак Коласавых паэм «Суд у лесе» і «Адплата» (гл. лісты Аркадзя Куляшова і Максіма Танка да Пімена Панчанкі // Полымя, 1997, № 8). «Пісьменнік эпічнага таленту быў пазбаўлены магчымасці непасрэдна назіраць за тым, як у сапраўднасці адбывалася партызанская вайна, на ўласныя вочы бачыць жывыя постаці «лясных салдатаў» і іх сем'і, знаёміцца з паўсядзённым жыццём, пабытавымі цяжкасцямі народных мсціўцаў», — дадае М. Мушынскі. Тое самае бачылася і сямейнікам: «Бацька пачаў пісаць аповесць пра юнака, які апынуўся ў варожым стане — таксама хацеў прысвяціць сыну-воіну, але фактычнага матэрыялу не хапала, і работа спынілася», — успамінаў малодшы сын пісьменніка Міхась Міцкевіч.

Незагойнымі ранамі адбіліся на сэрцы асабістыя страты 1941 — 1945 гг.: на фронце прапаў без вестак сярэдні сын Юрка (1941), пры цьмяных абставінах загінуў сябра Янка Купала (1942), ад цяжкай хваробы памерла жонка Марыя Дзмітрыеўна (1945). Гэтыя няшчасці таксама выліліся ў паэтычны радкі. Аднак глыбіня гора была настолькі вялікай, што раскрыццё яго праз тыя ці іншыя літаратурныя формы для інтравертнай натуры Якуба Коласа з'яўлялася, бадай, вельмі інтымным — такім, што ў поўнай меры не выносіцца на людзі, нават не давяраецца паперы. У гэтым выпадку ступень інтымнасці можна параўнаць з каханнем паэта да будучай жонкі. Цэлы нататнік быў спісаны любоўнай лірыкай, але аўтар палічыў недалікатным адносна сябе самога і свайго кахання публікаваць тыя вершы. Гора ж было *невымоўным*. Доказам — радкі:

*І дзе знайсці мне тыя словы,*
*Каб выказаць жальбу маю!*
*Мне не стае душы паловы,*
*Свой боль я ў сэрцы затаю.*

«1945 год для мяне асабіста быў цяжкім годам — я асірацеў і глыбока адчуў боль сваёй утраты, утраты майго лепшага друга. Гэты боль не мог не адбіцца і на маёй рабоце. Напісаў я толькі рад дробных лірычных вершаў — часткай для сябе. Можа з часам іх прачытаюць і людзі», — прызнаваўся спустошаны творца.

Па мастацкасці і гістарычнай значнасці творы 1930-х гг., ваеннага і пасляваеннага часу, па вялікім рахунку, не сталі ўпоравень са славутымі паэмамі «Новая зямля» і «Сымон-музыка», аповесцю «У палескай глушы», асобнымі вершамі. Хаця і зніжаць іх значэнне нельга. Думаецца, галоўнай прычынай з'яўляецца менавіта збольшага завершаная і на той жыццёвы момант рэалізаваная сфарміраванасць творчай натуры Якуба Коласа, на якую кардынальна не ўплывалі іншыя, магчыма, не менш, а больш (у параўнанні з ранейшымі) значныя з'явы і падзеі. Таму узаемасувязь, узаемазалежнасць паміж прааналізаванымі жыццёвымі ўплывамі і вехамі біяграфічных шляхоў вялікага пісьменніка з аднаго боку і яго падставовымі творамі з другога пры звароце даследчыцкай увагі відавочная.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# Яе паэтычны вір

Вольга Русілка — паэтэса, літаратуразнавец, педагог. І, дарэчы, як педагог, дацэнт, кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава выхавала многіх юных філолагаў.

Сімвалічна, што Вольга нарадзілася ў сям'і настаўніцы беларускай мовы і літаратуры, працягнула, так бы мовіць, сямейную эстафету на ніве нацыянальнага адраджэння. Маці таксама пісала вершы, і Вольга з маленства адчувала асаблівае стаўленне да роднага слова, якое панавала ў сям'і. Яшчэ студэнткай яна брала актыўны ўдзел у калектыўным зборніку «Вёсны», друкавалася ў рэспубліканскіх СМІ.

Малая радзіма паэтэсы — вёсачка Берішты, што на Шчучыншчыне. З уласцівай творцам эмацыянальнасцю, настальгічнасцю яна апісвае вёску ў вершы «Дома»:

*Туманок над аціхлым прасторам,*
*Халадок ад азёрнае хвалі...*
*Трэба быць найвялікшым акцёрам,*
*Каб слязінкі з вачэй не апалі.*

Аднак яе найбольш адметныя, таленавітыя зборнікі — «Табе», «Ажына», «В.І.Р», у якіх раскрываецца загадкавы і таямнічы свет жаночай душы, такой пяшчотнай і абаяльнай. Гэта паэзія не толькі мілагучная, але і непаўторная. У свой час



Вольга Русілка стала лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча, якога паэтэса лічыць сваім духоўным настаўнікам. Некалі У. Караткевіч сцвердзіў: «На Беларусі Бог жыве!» В. Русілка ўдумліва развівае гэтую тэму, прапануе яе працяг:

*І радасць, і слава, і шчасця імгненне,*
*І роднага дома парог —*
*Каб верыць: з табою ад нараджэння*
*Бог.*
*Хваробы, сумненні і расчараванні —*
*Каб зразумець ты змог,*
*Што гэтаму свету адно апраўданне —*
*Бог.*

Другім настаўнікам у паэзіі Вольгі Русілкі можна смела назваць паэта-інтэлектуала Анатоля Вярцінскага: шэраг сваіх навуковых прац яна прысвяціла асэнсаванню і даследаванню яго творчасці. Даследуючы беларускую паэзію, В. Русілка праявіла сябе і як скрупулёзны літаратуразнавец. Яна аўтар звыш сотні навуковых і навукова-метадычных прац па праблемах паэзіі, выкладання айчыннай літаратуры ў школе.

А нядаўна паэтэса стала лаўрэатам Літаратурнай прэміі Петруся Броўкі за кнігу «Сцежка, сцежачка, сцяжынка». Творам новай кнігі ўласціва рамантычная ўзнёсласць, добразычлівае стаўленне да чалавека. Адначасова паэтэса непрымірымая да чэрствасці, абыякавасці, душэўнай глухаты. Прасочваецца глыбокае асэнсаванне гістарычнага шляху Беларусі. Творы набылі яшчэ большую эпічную непаспешлівасць, грунтоўнасць.

Паэзію В. Русілка нельга назваць ні пафаснай (у шырокім сэнсе слова), ні трыбуннай, хоць паэтэса нярэдка выступае перад рознымі аўдыторыямі: дзіцячай, юнацкай, дарослай. Хутчэй яна скіраваная да адзіноты творцы, перад якім паўстаюць пытанні вечнасці: адсюль і мінорная элегічнасць некаторых вершаў, нават бягемнасць. Гэта гарманічна спалучаецца з імкненнем аўтаркі да ўсяго чыстага, шчырага і сумленнага. Так, паэзію В. Русілкі вылучае рэдкая для нашага часу сентыментальнасць на фоне лапідарнага стылю пісьма.

Многія яе вершы можна назваць загадкай. Як быццам нічога нечаканага ў іх няма, матывы традыцыйныя, але яны закранаюць самыя патаемныя душэўныя струны. Напэўна, такі эфект народжаны спалучэннем таленту і вялікай любові да чалавека, а таксама безабароннасцю перад няшчырасцю, падманам. У вершах паэтэсы выразна бачна стаўленне да свайго народа. Калі лірычная гераіня гатовая выказаць папрок ці нараканне, найперш адрасуе іх самой сабе.

Адзін са сваіх зборнікаў паэтэса назвала загадкава: «В.І.Р». Так, ёсць у гэтай кнізе і асэнсаванне жыцця нацыі, і інтэлектуальныя знаходкі, і, мусіць, той самы вір-імпэт. Але найперш «В.І.Р» — гэта сама паэтэса Вольга Іванаўна Русілка.

**Канстанцін КАРНЯЛЮК**

# Помніць школа земляка

Шасцікласніца Яна Ус, стоячы каля стэнда з пажаўцелымі ад часу фотаздымкамі, аркушамі паперы, упэўнена пераводзіць указкай з аднаго кутка стэнда ў другі і, не збіваючыся, расказвае, расказвае, нібы перагортвае старонкі кнігі. Родная беларуская мова гучыць з яе вуснаў мілагучна-пявуча, натуральна, шчыра.

Гэтак жа натхнёна распавядаюць пра свайго знакамітага земляка і яе сяброўкі, вучаніцы Нёманскай сярэдняй школы імя І. Гурскага Паліна Лыч, Каця Баранава, Аліна Дзесюкевіч, Таня Чуйко, Ліза Прышчыц, Дар'я Дзесюкевіч, Алеся Бондар. Дзяўчынкі — экскурсаводы школьнага музея, і расказваюць яны гасцям пра жыццёвы і творчы шлях ураджэнца тутэйшай вёскі Замосце пісьменніка Ільі Гурскага. 26 красавіка споўнілася 115 гадоў з дня яго нараджэння. З гэтай нагоды ў школу завіталі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, якія цяпер жывуць на Узденшчыне, сябры раённага літаратурнага аб'яднання «Нёманец».

Пятнаццацігадовым юнаком у 1914 годзе Ілья Гурскі ў пошуках працы накіраваўся ў далёкі Петраград. Батрачыў у памешчыка, працаваў качагарам на Абухаўскім заводзе. Удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайне. Пасля ранення і дэмабілізацыі ў 1924 годзе вярнуўся на радзіму. Праца ў Галоўліце БССР, Галоўрэперткаме, Галоўмастацтве, знаёмства з творчымі людзьмі натхнілі Ілью Данілавіча на ўласную літаратурную творчасць. Выступаў у друку з рэцэнзіямі, пасля пісаў п'есы, апавяданні, аповесці. Паспрыяла станаўленню яго як пісьменніка і вучоба на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні Белдзяржуніверсітэта, а затым — у аспірантуры Акадэміі навук Беларусі. Менавіта на 30 — 40-я гады мінулага стагоддзя прыходзіцца пік яго творчасці — напісаны і пастаўлены дзясяткі п'ес, выдаюцца кнігі. Сярод найбольш знакавых твораў пісьменніка — раман «У агні», раман-хроніка «Вецер веку», раман-памфлет «Чужы хлеб». Шэсць перадваенных гадоў І. Гурскі рэдагаваў газету «Літаратура і мастацтва», у гады Вялікай Айчыннай — газету «За свабодную Беларусь», сатырычны часопіс «Партызанская дубінка», з 1944 па 1960 год — часопіс «Беларусь». Яго творчая праца, баявыя заслугі і актыўная грамадская дзейнасць адзначаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны», медалямі, званнем «Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР». Памёр пісьменнік у 1972-м, а праз год школе ў вёсцы Магільна прысвоілі яго імя. Настаўнікі і вучні берагуць памяць пра земляка, папаўняюць прысвечаны яму раздзел музея новымі экспанатамі, успамінамі, годна знаёмяць з імі гасцей. Узденскія літаратары папоўнілі кнігу запісаў музея цёплымі водгукамі.



А затым у актавай зале школы са сваімі новымі творамі, кнігамі, успамінамі, звязанымі з жыццём і творчасцю І. Гурскага, пазнаёмілі прысутных члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Зоя Калкоўская, Віктар Сабалеўскі, Галіна Нічыпаровіч, Таццяна Цехнябедзіна. Прыгадалі і старэйшыну літаратурнага цэха Узденшчыны, пляменніка юбіляра 91-гадовага Васіля Гурскага, які па стане здароўя не змог наведаць сустрэчу. Чыталі вершы, дзяліліся творчымі здабыткамі і планамі Мікалай Старавераў, Тамара Каляда, Ліяна Тападзе, Ніна Лятун, Валянціна Шытыка. Госці пакінулі для школьнай бібліятэкі свае кнігі з аўтографамі.

Падобныя сустрэчы даюць свой плён. У той жа Нёманскай школе пад кіраўніцтвам настаўніцы Любові Собаль плённа працуе гурток «Жывое слова», члены якога ладзяць літаратурныя вечарыны, спрабуюць свае творчыя сілы — вершы, замалёўкі вучняў неаднаразова змяшчаліся на старонках раённай газеты «Чырвоная зорка», рэспубліканскіх дзіцячых газет і часопісаў.

**Сяргей ВАСІЛЬЧУК**

# Яснае неба

Калі памёр Валянцін Лукша, аднаму з першых сярод сваіх замежных сяброў я напісаў пра гэта туркменскаму паэту і празаіку Касыму Нурбадаву. Ведаў, што, нягледзячы на даўнасць іх сустрэч, кожны трымаў у памяці адзін аднаго. Ды і іншыя беларускія пісьменнікі, калі бывалі ў Ашхабадзе на выстаўцы «Залатая кніга Туркменістана» ужо ў нашы дні, апошнія дзесяць гадоў, часта перадавалі прывітанні Валянціну Лукшу ад Касыма Нурбадава, Курбана Чаліева, Агагельды Аланазарава, Каюма Тангрыкуліева… Магчыма, прывітанні былі б яшчэ ад кагосьці. Бо ў гады кіраўніцтва выдавецтвам «Юнацтва» Валянцін Антонавіч быў уважлівым да літаратуры народаў СССР, асабліва — да туркменскай дзіцячай літаратуры.

У Мінску на мове Купалы і Коласа ў розныя гады пабачылі свет дзіцячыя кнігі Бабаніяза Каюмава, Агагельды Аланазарава, Нуры Байрамава, Каюма Тангрыкуліева, вершы туркменскіх паэтаў друкаваліся ў альманаху перакладной літаратуры «Ветразь»… І ў многім гэта адбывалася дзякуючы менавіта руплівасці, ініцыятыве Валянціна Лукшы. Але час няўмольны. Хтосьці ўжо пайшоў з жыцця, пакінуў зямны свет.

…Праз некаторы час пасля майго паведамлення з Ашхабада прыйшоў ліст ад Касыма Нурбадава. Ён успомніў многія і многія сяброўскія стасункі з беларускім пісьменнікам і выдаўцом. Расказвае Касым Нурбадаў: «…Прачытаўшы дасланую табой выразку з газеты «Літаратура і мастацтва» з некралогам-успамінам Алеся Марціновіча «Брыганціна на хвалях вечнасці», я расчуліўся, што не стала Валянціна… Усе беларускія словы мне падаліся зразумелымі. Дзякуй Алесю Марціновічу за такую цеплыню і такі шчыры ўспамін… Ды і Лукша быццам перад вачыма паўстаў — такі блізкі і такі зразумелы… Успомнілася і яго дзіцячая кніга «Веснік вясны», выдадзеная па-туркменску ў Ашхабадзе ў выдавецтве «Магарыф», дзе я тады працаваў галоўным рэдактарам…»

Кнігу гэтую з перакладамі, якія зрабіў Курбан Чаліеў, помню і я. Нават у свой час прывёз адзін асобнік у Беларусь, падараваў існаваўшай тады бібліятэцы Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны. У гэтай навуковай установе пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук Вячаслава Рагойшы тады даследавалася тэма «Прысутнасць беларускай культуры ў Сярэдняй Азіі». Я збіраю матэрыялы пра беларуска-туркменскія літаратурныя стасункі. А іх і збіраць дужа не трэба было. У 1960 — 1990-я гг. дружба паміж нашымі літаратурамі развівалася і квітнела. Якраз шмат дзеля гэтага зрабіў Валянцін Антонавіч Лукша. Нездарма ж яго з калегамі работа над серыяй «Дзіцячая літаратура народаў СССР» была ацэнена Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. А што да туркменскага зборніка «Веснік вясны», то ён пабачыў свет у Ашхабадзе ў 1984 годзе.

— Калісьці была добрая традыцыя — праводзіць тыдні дзіцячай і юнацкай кнігі, — згадвае Касым Нурбадаў. — Адзін з такіх тыдняў на самым высокім узроўні праводзіўся ў Беларусі ў 1987 годзе. Па лініі Туркменістана Саюз пісьменнікаў СССР запрасіў і мяне. Сустрэчы з чытачамі, бібліятэкарамі праводзіліся ў Мінску і Гомелі. Паўсюль нас суправаджаў Валянцін Антонавіч. Мне адразу спадабаўся старэйшы за мяне літаратар, відаць было па ўсім, што чалавек ён камунікабельны, сімпатычны, вясёлы, дасціпны. Але акрамя нашых выступленняў перад юнымі чытачамі было і шмат сур'ёзных размоў. «Магарыф» — выдавецтва, дзе спалучалася выданне падручнікаў і дзіцячай літаратуры. Часам у нас бракавала досведу ў вырашэнні ўсіх задач па знаёмстве туркменскіх дзяцей якраз з дзіцячай мастацкай літаратурай. Таму шмат распытваў Валянціна Антонавіча. Асабліва ўражваў беларускі прыклад па выданні перакладной кнігі. Недзе ў той час і ў нас выспявала рашэнне пра стварэнне серыі дзіцячых анталогій братніх савецкіх рэспублік. Ужо прыдумалі і назву серыі — «Букет дружбы». Валянцін Антонавіч пазнаёміў мяне з кіраўніцтвам беларускага пісьменніцкага саюза. Было дамоўлена, што самі беларусы складуць для нас такую анталогію з лепшых твораў паэзіі і прозы, адрасаваных дзецям. Зборнік, дарэчы, пачалі збіраць яшчэ да майго ад'езду з Беларусі. Валянцін Антонавіч тады пажартаваў: «Калі беларускі том выпусціце першым, то будзем спяшацца як ніколі…»

Так і здарылася. Улетку таго ж года літкансультант СПБ Алесь Емяльянаў прывёз у Ашхабад арыгіналы для ўсяго тома. А ў 1988 годзе кніга пад назвай «Яснае неба» («Ачык асман») пабачыла свет. Дарэчы, прадмову ў «Магарыфе» папрасілі напісаць мяне. Зрабіў я і каментарыі напрыканцы кнігі, коратка расказаўшы пра аўтараў. У 1989 годзе на ВДНГ СССР у Маскве за кнігу «Яснае неба» галоўны рэдактар «Магарыфа» быў адзначаны сярэбраным медалём выстаўкі. У серыі, якая прадстаўляла нацыянальныя дзіцячыя літаратуры па-туркменску, пабачылі свет яшчэ дзве анталогіі — украінская і кіргізская. Далей праект «Букет дружбы», на жаль, спыніўся.

…З успамінаў Касыма Нурбадава пра Беларусь і Валянціна Лукшу — і тая, 1987 года, паездка ў Хатынь. Пасля вяртання з Беларусі туркменскі паэт напісаў верш «Чацвёртае дрэва», прысвечаны кожнаму чацвёртаму беларусу, які загінуў у Вялікай Айчыннай вайне. «Калі мы вярталіся з Хатыні, у наш транспарт падсеў стары чалавек, які ведаў вайну. І тыя жахі, драматычныя старонкі яе выкладаліся перад намі, што называецца, з першых вуснаў. А развітваючыся, дзядуля сказаў: «Няхай неба над нашай зямлёй будзе мірным і ясным». Калі пазней я патэлефанаваў Валянціну Антонавічу, як жадаю назваць анталогію беларускай дзіцячай літаратуры, то, канечне ж, варыянт узнік толькі адзін: «Яснае неба». Усім нам асабліва хочацца спакою, міру, яснага неба над галавой…»

У Туркменістане, Ашхабадзе добрым сваім сябрам Валянціна Антонавіча лічылі і Агагельды Аланазараў, Курбан Чаліеў. Па іх, па яго вершах адкрывалі рысы беларускага характару, спасцігалі само жыццё беларусаў.

Шкада, што сённяшняя актыўнасць пісьменнікаў у меншай ступені звязана з узаемаперакладамі, прадстаўленнем на роднай мове творчасці паэтаў, празаікаў іншых краін. Хацелася б, каб і цяпер мастацкая літаратура заставалася выразным сродкам народнай дыпламатыі.

Што да Касыма Нурбадава, то яго творы друкаваліся па-беларуску ў альманаху «Ветразь» у 1987 годзе: вершы «Вецер», Малаток», «Пяць пальцаў». Перакладчык — Уладзімір Марук. Для анталогіі «Кветкі Каракумаў» сем вершаў Касыма Нурбадава на беларускай пераствarыў Анатоль Грачанікаў. Сам туркменскі паэт пераклаў на родную мову творы Васіля Віткі, Станіслава Шушкевіча, Эдзі Агняцвет, Авяр'яна Дзеружынскага, Івана Муравейкі. «Знаёмства з паэзіяй беларусаў праходзіла па-рознаму, — згадвае Касым Нурбадаў. — Івана Муравейку адкрыў для сябе, калі яшчэ працаваў настаўнікам туркменскай мовы і літаратуры ў самай глыбінцы Туркменістана, сяле Гарадэпе ў Гасан-Кулійскім раёне. Гэта было ў 1970-я гады. Тады і ліставаўся з Іванам Андрэевічам Муравейкам. А пераклады друкаваліся ў піянерскай газеце «Мыдам тайяр» («Заўсёды гатовы»). Мяркую, што да ўзнаўлення па-туркменску творчай спадчыны Валянціна Антонавіча Лукшы туркменскія паэты-перакладчыкі яшчэ вернуцца…»

> **Шкада, што сённяшняя актыўнасць пісьменнікаў у меншай ступені звязана з узаемаперакладамі, прадстаўленнем на роднай мове творчасці паэтаў, празаікаў іншых краін. Хацелася б, каб і цяпер мастацкая літаратура заставалася выразным сродкам народнай дыпламатыі.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Што напісаў Гамлет?



**Выкладчыкі, навукоўцы б'юць трывогу: маладыя людзі не чытаюць, бібліятэкі не наведваюць, кніг не набываюць, ды што казаць, нават студэнты-філолагі замест знаёмства з поўным тэкстам класічнага рамана ўсё часцей выбіраюць яго скарочаны пераказ.**
**Ці сапраўды так? Якія меры прымаюцца ў краіне для папулярызацыі кнігі і чытання? Ці варта рэкламаваць кнігу, каб зрабіць яе больш запатрабаванай і нават моднай сярод моладзі? Ці працуе рэклама ў гэтым не зусім камерцыйным сегменце грамадскага жыцця?**
**На гэтыя ды іншыя пытанні спрабавалі адказаць удзельнікі «круглага стала» «Дзяржаўная падтрымка і папулярызацыя чытання ў Рэспубліцы Беларусь», што прайшоў у грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы. Свае меркаванні выказалі прадстаўнікі Міністэрства культуры краіны, Нацыянальнага інстытута адукацыі Беларусі, Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук, Мінгарвыканкама, Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк сталіцы.**

## ГОД КНІГІ НЕ СКОНЧЫЎСЯ

**Намеснік начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Наталля Задзяркоўская:**

— Без дзяржаўных мер па каардынацыі, фінансаванні складана наладзіць сістэмную працу па падтрымцы і папулярызацыі чытання. У якасці прыкладу мы можам успомніць 2012 год, які быў аб'яўлены ў нашай краіне Годам кнігі. Міністэрства культуры як адзін з арганізатараў і актыўных удзельнікаў Года кнігі прыйшло да высновы, што актыўную працу па папулярызацыі чытання варта працягваць. На дзяржаўным узроўні быў прыняты праграмны дакумент «Сістэма мер, накіраваных на падтрымку і развіццё чытання ў Рэспубліцы Беларусь на 1913 — 1915 гг.», які быў зацверджаны міністрам культуры краіны. Але ў яго фарміраванні ўдзельнічалі ўсе зацікаўленыя ведамствы і грамадскія арганізацыі. Гэта Міністэрства інфармацыі Беларусі, што адказвае за фарміраванне кніжнага рынку, Міністэрства адукацыі краіны, Нацыянальная акадэмія навук, Мінгарвыканкам і абласныя выканаўчыя камітэты, Саюз пісьменнікаў Беларусі.

У гэтым дакуменце мы пастараліся ахапіць усе магчымыя кірункі працы, якая датычыць перадусім насычэння інфармацыйнага рынку звесткамі пра кнігі, пісьменнікаў, правядзення розных фестываляў чытання, бібліятэчных праектаў і праграм, акцый. У плане ёсць і навуковая частка, што ўключае правядзенне канферэнцый, семінараў па праблемах чытання, правядзенне сацыялагічных даследаванняў, арганізацыю літаратурных конкурсаў.

## ЗАМЕСТ РАМАНА — КЛІП

**Намеснік дырэктара па навуковай рабоце філіяла «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Сяргей Гаранін:**

— Добра, што грамадства звяртае ўвагу на пытанні папулярызацыі кнігі, бо такая праблема існуе не толькі ў дзіцячым, але і дарослым, нават студэнцкім чытанні. У 1970-я гады мы былі самай чытаючай краінай у свеце, а цяпер прыходзім да таго, што трэба прымаць комплекс мер, выкліканы выпадзеннем літаратуры з актыўнага ўжывання ў сферы культуры. Для беларусаў гэта можа мець катастрафічныя наступствы, бо наша культура фарміравалася як літаратурацэнтрычная. Пісьменнік не проста займаўся сваёй справай і зарабляў грошы, але яго тэксты выконвалі шмат грамадскіх функцый. Сёння ж назіраецца страта вядучых пазіцый чытання і перадача іх нейкім іншым відам камунікацыі. Існуе шмат сур'ёзных навуковых праблем, што могуць вырашацца супольнымі намаганнямі.

Варта звярнуць увагу і на каштоўнасныя арыентацыі чалавека. Маецца на ўвазе праблема з пэўнай кліпавасцю сучаснага мыслення, што развіваецца ў выніку актыўнага карыстання інтэрнэтам. Гадоў 15 таму я назіраў за сваяком, які глядзеў па тэлевізары адначасова некалькі фільмаў. Калі пачыналася рэклама, ён пераключаўся і працягваў сачыць за іншымі сюжэтамі. Для майго пакалення ўсё яшчэ разбуральная рэклама, што перарывае фільм. Калі чалавеку з кліпавым мысленнем даць вялікі раман, то ён яго не ўспрыме цалкам. Гэта псіхалагічная, сацыяльная, філасофская праблема. Сучасны свет увогуле перагружаны вельмі складанай дакументальнай інфармацыяй, якой мастацтва проста саступае. Вырашэнне гэтых пытанняў магчымае толькі ў супрацы цэлага шэрагу грамадскіх інстытутаў пачынаючы ад Саюза пісьменнікаў і завяршаючы школай. Месца і роля Акадэміі навук тут бачыцца ў правядзенні культурна-асветніцкай работы ў розных установах краіны, даследаванні сучаснага літаратурнага працэсу. Магчыма, нам варта арганізаваць працу па маніторынгу чытацкага попыту і кніжнага рынку, што дазваляла б сачыць за развіццём літаратуры і чытацкіх інтарэсаў. Думаецца, такое даследаванне адказала б на многія пытанні.

## ЗАПРАШАЕМ У БІБЛІЯТЭКУ

**Дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска Таццяна Швед:**

— Цяпер у сталіцы працуе 18 дзіцячых бібліятэк. Я б не сказала, што дзеці і іх бацькі не чытаюць. Чытаюць усе і паўсюль, проста не так, як мы прывыклі. З планшэта, тэлефона, розных старонак у інтэрнэце. Часта можна пачуць меркаванне, што дзеці не чытаюць кніг на беларускай мове, з якім я таксама магу паспрачацца. Сапраўды, выдаецца досыць мала вартых увагі беларускамоўных кніг для дашкольнікаў, малодшых школьнікаў, падлеткаў. Ёсць пісьменнікі, творы якіх з задавальненнем чытаюць, і мы іх заўсёды просім, каб пісалі больш. Не так даўно праводзілася невялікае анкетаванне, і нашы чытачы называлі такіх аўтараў, як Алесь Бадак, Навум Гальпяровіч, Яўген Хвалей, Алена Турава, Мікола Чарняўскі, Андрэй Жвалеўскі, Яўгенія Пастэрнак. Іх кнігі карыстаюцца попытам. Але справа ў тым, што выдавецкая сістэма краіны не паспявае за чытачом: праходзіць год-два, і наша прапанова пастаяннаму наведвальніку бібліятэк і аматару беларускай літаратуры вычэрпваецца. За гэты час не паспявае выйсці дастатковая колькасць кніг.

Магу распавесці яшчэ пра адну з'яву. Чытач памаладзеў. Нашу бібліятэку цяпер часта наведваюць дашкольнікі і малодшыя школьнікі. Можа, спрыяе той факт, што кнігі ў крамах досыць дарагія, і калі бацькі бачаць, што ў бібліятэцы іх можна ўзяць бясплатна, то з задавальненнем завітваюць сюды з дзеткамі. А яшчэ — запрашаюць сваякоў і знаёмых. Мы стараемся праводзіць рэкламныя акцыі і працаваць з чытачамі індывідуальна. Гэта вельмі важна.

## ШУКАЮ ЧЫТАЧА…

У часы панавання рынкавай эканомікі і актыўнага карыстання метадамі агрэсіўнага маркетынгу кнігі застаюцца сферай сціпласці. Мяркуюць, калі чытач захоча знайсці нейкае выданне, ён абавязкова завітае ў кнігарню ці бібліятэку і атрымае жаданае. Сапраўды. Але такое меркаванне слушнае толькі са сталым чытачом, які ведае, што, дзе, калі пашукаць, набыць і пачытаць. А што рабіць у выпадку, калі чалавеку, магчыма, было б цікава пазнаёміцца з кнігай ці пісьменнікам, ды ён проста не ведае, што гэтая сфера жыцця існуе, яму не паказалі «жывога аўтара», не прывялі за руку на прэзентацыю ці элементарна — не паведамілі пра кнігу ў шырокай рэкламе.

Да прыкладу, Таццяна Швед распавяла:

— Пасля капітальнага рамонту мы адкрывалі дзіцячую бібліятэку ў Чыжоўцы, на вуліцы Убарэвіча. Таму звярнуліся ў Мінсктранс з прапановай даць новую назву прыпынку, які знаходзіцца побач. І чытачоў стала больш. Некаторыя нават казалі: «Я тут дзесяць гадоў жыву, але не ведаў, што непадалёк ёсць бібліятэка. Ехаў у транспарце, пачуў назву прыпынку «Дзіцячая бібліятэка», нават і не патрэбна мне тут выходзіць, але я зайшоў у бібліятэку».

**Галоўны спецыяліст галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама Марына Ясюк лічыць, што ў Беларусі кніга рэкламуецца досыць актыўна:**

— Не так даўно ў нашай краіне прайшоў Год кнігі, тады былі і цытаты класікаў на білбордах, дагэтуль на тэлебачанні з'яўляюцца вядомыя людзі і чытаюць. У дзіцячай бібліятэцы быў конкурс, калі вядомыя акцёры, выканаўцы, прадстаўнікі шоу-бізнесу пераапраналіся ў літаратурных герояў і раздавалі плакаты з творамі. І нават калі сёння мы ўключым раніцай тэлевізар, то пабачым праграму, прысвечаную кнігам.

## АДКАЗ МОЛАДЗІ

Але ці толькі дарослыя беларусы непакояцца пра становішча ў галіне? Ці варта казаць, што ўся моладзь — на адзін капыл: не чытае, не цікавіцца, не хвалюецца за лёс кнігі? Адказ я знайшла… у сацыяльных сетках, аднойчы натрапіўшы ў адной з папулярных суполак анкету «Ці чытаюць беларусы?». Натуральна, пазнаёмілася з аўтарамі і перадгісторыяй, папрасіла падзяліцца вынікамі. Падкрэслю, што гэтая праца не можа прэтэндаваць на ўсёабдымнасць ахопу пытання, але дазваляе заўважыць некаторыя цікавыя тэндэнцыі, а таксама зрабіць пэўныя высновы.

Аўтарамі даследавання з'яўляюцца студэнткі другога курса Інстытута бізнесу і менеджменту тэхналогій БДУ Анастасія Ляхавец і Ганна Барысевіч.

— Пытаннем, ці чытаюць беларусы, я зацікавілася, калі набывала квіткі ў тэатр на «Гамлета», — распавядае Анастасія. — Якое было маё расчараванне, калі дзяўчына ў касе з упэўненасцю сказала, што Гамлет — гэта аўтар і напісаў ён «Рамэа і Джульету». Я была здзіўлена: няўжо некаторыя не ведаюць Шэкспіра? Набліжалася навуковая канферэнцыя ва ўніверсітэце, таму мы з сяброўкай не маглі не закрануць праблему чытання ў сваім даследаванні. У ходзе працы ўсё больш здзіўляліся.

Так, у выніку стала вядома, што 71 працэнт апытаных лічыць зніжэнне інтарэсу да чытання сапраўднай праблемай. Толькі 22 працэнты рэспандэнтаў у вольны час чытаюць кнігі. Пры гэтым фільмы глядзяць 31 працэнт. Цікава і тое, што людзям дастаткова пазнаёміцца з экранізацыяй рамана, а не чытаць яго.

Вельмі сумна выглядае сітуацыя з чытаннем беларускай літаратуры. Так, 61 працэнт апытаных зазначылі, што не любяць чытаць па-беларуску. Прычынамі непапулярнасці беларускай літаратуры з'яўляюцца неразуменне мовы (38 працэнтаў), няведанне аўтараў (26 працэнтаў), незацікаўленасць сюжэтам (23 працэнты). Некаторыя адказвалі, што лічаць беларускую мову непрыгожай, а іншыя бачаць непапулярнасць айчыннай літаратуры ў непапулярнасці мовы. На пытанне пра тое, якіх сучасных беларускіх аўтараў ведаюць, рэспандэнты часцей за ўсё называлі імёны, што сталі знакавымі ў савецкі час ці яшчэ раней: Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна, Якуба Коласа, Янкі Купалы. Аднак знаходзіліся і тыя, хто не змог назваць нават аднаго аўтара.

Па меркаванні нашых суайчыннікаў, зрабіць літаратуру больш папулярнай маглі б рэклама і папулярызацыя чытання (31 працэнт), распаўсюджванне бясплатных кніг (17 працэнтаў), ізаляванне ад камп'ютара (19 працэнтаў), нічога (13 працэнтаў).

Падчас даследавання дзяўчаты правялі два сацыялагічныя апытанні, у якіх паўдзельнічалі 330 чалавек.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Гэты мудры дзівак…

## ВАДЗІМУ САЛЕЕВУ — 75

**Ён усюдыісны, як творчы дух, і непрадказальны, як з'ява прыроды. У асяродку вучоных-гуманітарыяў, у свеце высокай адукацыі, у вірлівай арт-прасторы яго ведаюць усе. Ды сёння можна казаць, што асоба Вадзіма Салеева не проста вядомая, а нават легендарная. Калі чалавек, чые імя і справы ўвекапомнены на энцыклапедычных старонках, адзначае свае 75, а звонку здаецца, што добры дзясятак гадкоў гэты жартаўнік, жыццялюб і працаголік сабе «прыпісаў»; калі высвятляецца, што юнаком ён выступаў за БССР на спаборніцтвах па настольным тэнісе, — вось вам і легенда.**


Фота Кастуся Дробава

Доктар філасофскіх навук, прафесар, вучоны-эстэтык з еўрапейскім імем, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, прапагандыст нашых культурных каштоўнасцей перад замежнай аўдыторыяй, тэатральны крытык і кінааглядальнік, Вадзім Салееў яшчэ і даўні аўтар «ЛіМа». З колішнім рэдакцыйным аддзелам ТМК (абрэвіятура азначала спецыялізацыю яго супрацоўнікаў на тэматыцы тэатральнага, музычнага і кінамастацтваў) Вадзім Аляксеевіч пасябраваў з тых часоў, калі там працаваў непараўнальны, незабыўны і незаменны Барыс Бур'ян. Мне пашчасціла займацца ўсімі праблемамі аддзела поруч з Барысам Іванавічам. Ён між іншым «прагаварыўся», што Салееў на тэатральным абсягу чалавек невыпадковы: блізкі родзіч народнага артыста СССР Яўгена Палосіна (сталае пакаленне беларускіх гледачоў памятае яркі талент гэтага майстра, стваральніка трапных сцэнічных вобразаў, якія вылучаліся шчырасцю, арганічным гумарам, дэталёвымі псіхалагічнымі характарыстыкамі). Абмен тэатральнымі навінамі, літаратурнымі ўражаннямі, бясконцыя філасофскія размовы з нагоды агульнаэстэтычных дый проста жыццёвых праблем, спрэчкі пра канкрэтныя падзеі мастацтва і культурныя з'явы... Бывала, пасля такіх візітаў у рэдакцыю гаваркі палеміст-філасоф Салееў надоўга знікаў. А потым нечакана тэлефанаваў з прапановай напісаць нешта нешараговае або наведваўся ў «ЛіМ» з ужо гатовым тэкстам — гэткім жа ёмістым, эмацыянальным і мудрагелістым, як працяглыя і захапляльныя маналогі яго аўтара.

Міналі дзесяцігоддзі, мяняліся рэаліі ды прыярытэты ў грамадстве. Ці мяняўся разам з часам і Вадзім Салееў? Напэўна. Але мяняцца не значыць прыстасоўвацца. Лёс выпрабоўваў яго на жыццёвай дарозе рэзкімі паваротамі, уцягваў у кола драматычных падзей, падштурхоўваў да рызыкоўных, хаця і паспяховых, эксперыментаў і надоўга разлучыў з «ЛіМам». Аднойчы Вадзім Аляксеевіч зноў увайшоў у знаёмы рэдакцыйны пакой. Ён прыкметна пасівеў, у цёплым позірку прамяністых і ўсмешлівых «паўднёвых» вачэй з'явілася нейкая тужлівая мудрасць. Аднак усё ў ім выдавала ранейшага Салеева. Да непрадказальнасці арыгінальнага. Шчырага і ўпартага, як дзіця, у сваёй дапытлівасці. Адкрытага і простасардэчнага ў ідэалістычных перакананнях ды высакародных памкненнях, як Дон Кіхот. Аказалася, што на некалькі гадоў ён звязаў сваю навукова-педагагічную дзейнасць з Літвой, а таксама з Германіяй (там наш вучоны, як распрацоўшчык праграмы рэабілітацыі пацярпелых ад чарнобыльскай радыяцыі дзяцей — рэабілітацыі праз мастацтва, — прабыў з 1993-га па 1995-ы, але, нягледзячы на спрыяльныя ўмовы для жыцця і працы, вярнуўся ў Беларусь).

Вядома, Вадзім Аляксеевіч аднавіў стасункі з «ЛіМам», спалучыўшы мастацка-крытычны і публіцыстычны чын з навукай і педагогікай, скарыстоўваючы самыя розныя магчымасці, каб падсілкаваць свой эстэтычны досвед і знайсці спажыву для развагі. Кінафорум «Лістапад», выстаўка-аўкцыён выяўленчага мастацтва, прэм'ера мюзікла, літаратурная класіка ў лялечным тэатры, маладая рэжысура на абласной сцэне, студэнцкія рэцэнзіі ў друку... Здаецца, Салеева цікавіць усё. І гэтае «ўсё», пераплавіўшыся ў грубцы яго неспатольнага інтэлекту, афармляецца ў выключна ўнікальныя праекты. Прыклад — манаграфія «Мастацтва і сучаснасць "Мастацтва"» (воляю аўтара назва можа чытацца яшчэ і як «Мастацтва "Мастацтва" і сучаснасць»). Кніга-парадокс, фарматам і структурай тоесная колішняму абліччу вядомага часопіса, сталася асветніцка-філасофскім крэда вучонага, які сцвярджае ўласную пазіцыю праз эсэістыку, індывідуальныя рэфлексіі, дыялог з арт-асобамі, складаныя тэарэтычныя даследаванні. Сярод іншых яго манаграфій — «Пра мастацкі густ», «Мастацтва і яго ацэнка», «Нацыянальная самасвядомасць і мастацкая культура». А ёсць яшчэ сотні навуковых публікацый, безліч артыкулаў, лекцый, дакладаў, агучаных на канферэнцыях «дома» і ў замежжы. Да 75-годдзя Анатоля Дзялендзіка ён выдаў пры падтрымцы Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі брашуру пра гэтага вядомага драматурга, пра пастаноўкі яго п'ес. А які кранальны і гожы ўспамін-абразок прысвяціў у «ЛіМе» свайму старэйшаму калегу, светламу чалавеку, настаўніку для многіх — прафесару Анатолю Сабалеўскаму, з якім (вось містыка!) нарадзіўся ў адзін дзень.

Вадзім Аляксеевіч, пэўна, ведае, што працаваць з яго рукапісамі зусім не проста, і ніколі не трымаецца за радкі, калі давярае іх праўку рэдактару, з якім ёсць даўняе і абсалютнае паразуменне. Прызнаюся, я ніколі не ашчаджала час, каб учытацца ў напісанае Салеевым. Цікава было прасачыць пакручасты маршрут яго думкі, уявіць за ёю плынь падсвядомасці, каб далікатна разблытаць вязьмо філасофскіх «рэбусаў». Каб з найменшымі стратамі для аўтарскага ладу мыслення і стылю адаптаваць бязмежны артыкул да пэўнай газетнай плошчы і чытацкага ўспрымання.

Помніцца, на сваё 70-годдзе ён адмовіўся ад публічных урачыстасцей і папярэдзіў, што «збяжыць у вёску». Мне гэта падалося не дзівацтвам прафесара, а праявай культуры і мудрасці. Відавочна, у адрозненне ад многіх людзей, якія любяць салідна адзначаць кожную пяцігодку свайго жыцця, ён прытрымліваецца класічнага правіла: лічыць юбілейнымі толькі тыя даты, што дзеляцца на 25. Тады імяніннік паабяцаў зрабіць юбілейнае падсумаванне сваіх навуковых і творчых набыткаў праз пяць гадоў. Што ж, знамянальны момант надышоў: 27 мая Вадзім Аляксеевіч сустрэў юбілейны дзень нараджэння. І што цяпер: пачне падсумоўваць набыткі? Але ж у сакавіку ён быў заўважаны ў Магілёве на форуме «M.@rt.кантакт». Затым яго бачылі на нейкіх сталічных фестывалях... Ці не дачасна падсумоўваць? Ён рыхтуе новыя творчыя ўчынкі! Няўрымслівы эрудыт. Вучоны-нефармал. Чалавек-нефармат...

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

# Грузінскі салавей на беларускай сцэне

**Сёлета Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі падарыў аматарам опернай класікі незабыўны вечар — канцэрт народнага артыста Грузіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Грузіі Тэймураза Гугушвілі. Сустрэча, без перабольшання, атрымалася трыумфальнай: як з пункту гледжання музычнай праграмы, так і рэдкай зладжанасці музыкантаў і салістаў аркестра ў дыялогу з залатым тэнарам Грузіі.**

Яркі прадстаўнік грузінскай вакальнай школы, Тэймураз Гугушвілі спалучыў традыцыі нацыянальнай культуры і еўрапейскага майстэрства: ён стажыраваўся ў міланскім тэатры Ла Скала. У інтэрпрэтацыі спевака прагучалі практычна ўсе тэнаровыя партыі класічнага рэпертуару ў операх Моцарта, Расіні, Вердзі, Пучыні, Леанкавала, Мусаргскага, Чайкоўскага, Пракоф'ева і інш. Застаючыся верным на працягу творчай дзейнасці Тбіліскаму опернаму тэатру імя З. Паліяшвілі, ён гастраліраваў па ўсім свеце: Расія, Украіна, ЗША, Японія, Ізраіль, Турцыя...

На сцэне Вялікага тэатра Беларусі Тэймураз Гугушвілі ўпершыню выступіў у 2012 годзе на Мінскім міжнародным Калядным форуме, затым яскрава прадэманстраваў свой талент у вобразах Каварадосі і Радамеса ў спектаклях «Тоска» і «Аіда». Працяглыя авацыі публікі сталі сведчаннем харызматычнасці голасу артыста і надзеяй на будучыя сустрэчы. Для самога тэнара ўдзячнасць гледачоў не менш каштоўная: «Я шаную рэакцыю людзей і старанна рыхтуюся да выступленняў, каб трымаць планку».

І вось доўгачаканая сустрэча адбылася. Для сольнага канцэрта спявак абраў музычныя нумары, якія адрозніваюцца выканальніцкай віртуознасцю, патрабуюць дасканаласці валодання стылем бельканта, арыі і дуэты, што дазваляюць раскрыць мастацкі вобраз у складаных драматычных калізіях опернага дзеяння. Голас Тэймураза Гугушвілі захаваў дзіўную маладосць. У вельмі моцным верхнім рэгістры ярка гучаць усе тэнаровыя «каралеўскія вышыні», яго манера выканання адрозніваецца высокай культурай гукавядзення, чысцінёй інтанавання, ювелірным тэхнічным майстэрствам фіярытур. Асаблівае ўражанне пакінула выкананне спеваком музыкі Д. Вердзі: драматычная і пранікнёная арыя дона Альвара («Сіла лёсу»), музычныя нумары з «Рыгалета» і «Аіды».

Усе тры беларускія салісткі, якія выступілі з Тэймуразам Гугушвілі, заслугоўваюць вышэйшых ухвал. У дуэце Джыльды (Тацццяна Гаўрылава) і Герцага назіраўся вельмі гарманічны тэмбравы баланс. Яркі дуэт Тоскі (Ніна Шарубіна) і Каварадосі паланіў энергетыкай і арганічнасцю, а надзвычайнае валоданне мастацтвам дыхання дазволіла спеваку, утрымліваючы на фермаце высокую ноту, прабегчы праз усю сцэну за кулісы і вывесці адтуль гераіню оперы. Публіка рэагавала авацыямі! Дуэт Амнерыс (Аксана Волкава) і Радамеса раскрыў новыя адценні голасу майстра вакалу, герой оперы застаўся непахісным, верным сваім пачуццям да Аіды. Высокі клас вакалу выбітны тэнар прадэманстраваў у знакамітай трагічнай арыі Каніо з оперы «Паяцы» Р. Леанкавала. Колькі адценняў і эмацыянальных тонкасцей!


*Сцэна з оперы «Тоска», арыю Каварадосі выконвае Т. Гугушвілі.*

З асабістых размоў з музыкантамі ведаю пра іх творчую закаханасць у Тэймураза Гугушвілі. Таму жаданне музычна дыхаць у такт з салістам было адчувальнае. Натхнёна прагучалі інструментальныя нумары канцэрта (дырыжор Віктар Пласкіна): бліскучая Уверцюра да оперы «Руслан і Людміла» М. Глінкі, лірычнае Інтэрмецца з оперы «Манон Леско» Дж. Пучыні, бяспройгрышная па энергетычным напале сцэна «Вальпургіевай ночы» з оперы «Фауст» Ш. Гуно.

У кантэксце цэлага крыху прамалінейна і адкрыта шлягерна прагучаў толькі «Танец з шаблямі» А. Хачатурана. Тым больш што адразу пасля яго былі прадстаўлены філасофска-экспрэсіўны фінальны «каронны нумар» канцэрта — арыя Міндзі з аднайменнай оперы А. Тактакішвілі. Гэтая грузінская опера з велізарным поспехам была пастаўлена на сцэне Вялікага тэатра Беларусі на пачатку 1970-х гадоў. Паэтычная легенда-прытча пра тое, што чалавек — частка сусвету, а ўвесь свет — сугучча, і той, хто парушыў гэты закон, будзе пакараны. Арыя галоўнага героя — голас скатаванай душы — напоўнена ўнутраным напалам эмоцый, складаная ў музычна-стылістычным, тэхнічным і вобразным планах. Такі глыбокі акцэнт, свайго роду мастацкі звышузровень, пастаўлены Тэймуразам Гугушвілі.

Фінальны акорд сустрэчы — яшчэ адзін прыемны сюрпрыз. Пасля выканання «на біс» арыі Міндзі спявак звярнуўся да залы з удзячнасцю за шчырыя прыём і прапанаваў выканаць разам з ім грузінскую народную песню аравэла (ворная песня) у апрацоўцы класіка грузінскай кампазітарскай школы Захарыя Паліяшвілі. Сам Тэймураз Гугушвілі ў стылі спевакоў-крыманчулі закручваў віртуозныя меладычныя пасажы на неверагодных вышынях, дэманструючы дасканалае валоданне мастацтвам фальцэтнага вакалу. Упэўнена, што гэтыя хвіліны не забудуцца, а надзея на новыя сустрэчы з вялікім тэнарам хутка спраўдзіцца.

**Наталля ГАНУЛ**

# Пра Полацка-Віцебскую даўніну

*Фота Алены Віннікавай*




*Дэманструюцца і сучасныя выданні, прысвечаныя Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Дзейнасць арганізацыі, несумненна, займае важнае месца ў гісторыі развіцця беларускай навукі і культуры.*

У Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь сабрана шмат унікальных і рарытэтных дакументаў, якія адлюстроўваюць профільны кірунак установы па праве, эканоміцы, палітыцы. Але збор кніжных каштоўнасцей не абмежаваны толькі гэтымі галінамі. У нас можна знайсці як папулярныя выданні сучаснага айчыннага і замежнага друку, так і тыя, што сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Пра адметныя багацці кніжнай скарбніцы сведчыць яе выставачная дзейнасць. На працягу многіх гадоў экспазіцыі, змяняючы адна адну, раскрываюць шматграннасць і рознабаковасць фондавых калекцый. Нядаўна адкрылася выстаўка «Полацка-Віцебская даўніна. Старонкі мінулага». У экспазіцыі прадстаўлены дакументы, якія захоўваюцца ў аддзеле старадрукаў і рэдкіх выданняў. Выстаўка распавядае пра Віцебскую вучоную архіўную камісію, якая працавала ў 1909 — 1919 гг. і была створана па ініцыятыве вядомых грамадскіх і навуковых дзеячаў Е. Раманава, А. Сапунова, В. Арсеньева.

Дзейнасць камісіі спрыяла ахове помнікаў гісторыі і культуры, правядзенню археалагічных раскопак, збору і вывучэнню прадметаў старажытнасці, старадаўніх рукапісаў і дакументаў. Шмат зроблена яе супрацоўнікамі для папулярызацыі гісторыі Віцебскага краю. Сведчаннем таму — публікацыі навуковых і папулярных прац па геаграфіі, археалогіі і этнаграфіі.

Архіўныя дакументы, даследчыя працы, а таксама артыкулы пра культурнае і грамадскае жыццё ўтрымлівае заснаванае камісіяй выданне «Полацка-Віцебская даўніна». Зборнік выйшаў толькі ў трох выпусках, якія датуюцца 1911-м, 1912-м і 1916-м. Усе яны прадстаўлены ў экспазіцыі. Апублікаваныя ў выданні матэрыялы прыцягнулі ўвагу многіх пакаленняў даследчыкаў. У зборніку змешчаны працы вядомых навукоўцаў А. Сапунова — «Гістарычны нарыс Віцебскай Беларусі», «Сказанні ісландскіх ці скадынаўскіх саг аб Полацку, Полацкіх князях і р. Заходняй Дзвіне»; Д. Леанардава — «Полацкі князь Усяслаў і яго час»; П. Красавіцкага — «Помнікі царкоўнай даўніны ў Віцебскай губерні і іх захаванне»; І. Мітрошанкі — «Езуіты ва Усходняй частцы Беларусі з 1579 да 1772 года» ды інш.

У выданнях можна знайсці выявы археалагічных і архітэктурных помнікаў Віцебшчыны. На старонках «Полацка-Віцебскай даўніны» шырока прадстаўлены ўнікальныя дакументы са спраў Віцебскага губернскага архіва, цікавыя матэрыялы з асабістых збораў пра падзеі вайны 1812 г.

**Святлана ПАЎЛАВІЦКАЯ,**
**галоўны бібліятэкар**
**аддзела старадрукаў і рэдкіх**
**выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі**

# Пачуем малінавы звон

Прэзентацыя манаграфіі «Званы і перазвоны праваслаўных храмаў заходніх рэгіёнаў Беларусі: гісторыя і сучаснасць» кандыдата мастацтвазнаўства, этнамузыказнаўцы-кампанолага, сапраўднага члена Асацыяцыі звонавага мастацтва Расіі (Мінск) Алены Шацько адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў межах Дамовы пра супрацоўніцтва дзяржавы і Беларускай Праваслаўнай Царквы. Мерапрыемства было ўключана ў праграму Міжнародных Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў.

У выданні раскрываецца гісторыя званоў праваслаўных храмаў Беларусі XII — пачатку XXI стагоддзя, а таксама робіцца першая ў беларускай кампаналогіі спроба разгледзець гэты прадмет як матэрыяльны і духоўны аб'ект Праваслаўнай Царквы. У кнігу ўвайшлі гістарычныя звесткі пра званароў Беларусі, аповеды аб практыцы навучання гэтай унікальнай справе, прыклады нясення званарскага паслушэнства ў цяжкія для вернікаў гады.

У дадатку да кнігі публікуюцца архіўныя дакументы пра званавыя наборы беларускіх цэркваў, фотаздымкі саміх званоў і вясковых званароў, зробленыя аўтарам у экспедыцыях. Да выдання прыкладаецца дыск з запісам традыцыйных «малінавых» гукаў, кінастужка «Звон і званары» Людмілы Панкратавай, выпушчаная Інфармацыйным агенцтвам Беларускай Праваслаўнай Царквы. Дарэчы, гэты фільм перамог у Міжнародным конкурсе «Праваслаўная ініцыятыва 2012». Кансультантам рэжысуры выступіла Алена Шацько.

Аўтар манаграфіі імкнулася данесці да сучаснікаў і зафіксаваць для будучых пакаленняў узор аднаго з самых цікавых мастацтваў у Беларусі з надзеяй, што традыцыі, захаваныя дынастыямі вясковых званароў, будуць адраджацца і памнажацца.

**Раіса МАРЧУК**

## Памяць

# Шляхамі партызанскімі...

Літаратурна-музычная вечарына «Дарогамі вайны», прымеркаваная да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Яе ўдзельнікі прапанавалі гасцям прайсці дарогамі вайны, каб разам адчуць радасць Вялікай Перамогі. У межах святочнай імпрэзы адкрылася выстаўка «Беларусь партызанская», на якой экспануюцца ўнікальныя дакументальныя матэрыялы часоў Вялікай Айчыннай вайны з фондаў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі: дакументы з асабістага архіва гісторыка Івана Краўчанкі, шматлікія падпольныя і партызанскія выданні — ад рэспубліканскіх, абласных, раённых газет да маладзёжных антыфашысцкіх бюлетэняў. Сярод іх — «Кліч Радзімы» Ельскага РК КП(б)Б, «Красный партизан» Васілішскага РК КП(б)Б, «Ленінец» Плешчаніцкага РК КП(б)Б і Мінскага партызанскага злучэння, «Партизан Белоруссии» Пухавіцкага падпольнага РК КП(б)Б і шмат іншых.

Насценныя газеты і баявыя лісткі займалі важнае месца ў падпольным партызанскім друку. Друк народных мсціўцаў прадстаўлены рукапіснай газетай «За Родину» партызанскага атрада «Косто Калинауско», газетай «Молодёжь Белоруссии в борьбе за Родину. Комсомольский бюллетень» (№ 1, 1944 г.), «Сталинское племя. Ежедекадная газета межрайонного комсомольского комитета» (№ 3, 1943 г.), «Мы отомстим. Газета Н-ской партизанской бригады» (№ 10, 1943 г.) і г. д. Падрабязная інфармацыя пра іх выпуск змешчана ў факсімільным выданні «І паўстаў народ...» (2005).

На выстаўцы можна пазнаёміцца з кнігамі ваенных часоў. Гэта выданні з серый «Бібліятэка маладога партызана» і «Героі Айчыннай вайны», а таксама з асабістай бібліятэкі кіраўніка падпольных абкамаў і райкамаў ЦК КП(б)Беларусі Панцеляймона Панамарэнкі, творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Пятра Глебкі, Янкі Брыля, Петруся Броўкі, Максіма Танка ды інш. На многіх асобніках — аўтографы і ўладальніцкія запісы.

Падрыхтавана экспазіцыя «Новыя кнігі пра вайну», якая прадэманструе сучасныя навуковыя і навукова-папулярныя выданні, прысвечаныя тэме Вялікай Айчыннай на тэрыторыі Беларусі.

**Вольга ГУБАНАВА**

# Найлепшы сувязны

Больш як 20 тэматычных кніжных выставак, прысвечаных 70-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, пройдзе ў Фундаментальнай бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Адной з першых ладзілася экспазіцыя «Вечная слава героям!» на факультэце радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій. Тут былі прадстаўлены як выданні апошніх гадоў, так і кнігі ваеннага часу.

Адкрытыя для наведвальнікаў экспазіцыі будуць працаваць на ўсіх факультэтах і ў вучэбных карпусах БДУ. Асноўныя тэмы выставачных праектаў — «І памяць пра вайну нам кніга ажыўляе», «Падпольны друк у гады Вялікай Айчыннай вайны», «Партызанскі край» ды інш. Можна пазнаёміцца з рэдкімі, юбілейнымі і падарункавымі выданнямі пра вайну.

Дарэчы, аддзелы перыядычнай, навуковай і вучэбнай літаратуры Фундаментальнай бібліятэкі прапанавалі са сваіх фондаў шмат кніг, якія адлюстроўваюць асноўныя этапы Вялікай Айчыннай вайны. На выстаўках будуць прадстаўлены і рарытэтныя сведкі тых гадоў — атласы, карты, альманахі, каляндар, дзённікі і г. д.

У сучасным свеце кніга з'яўляецца не толькі крыніцай ведаў і асветы, але і сувяззю паміж эпохамі. Таму арганізацыя падобных выставак у БДУ — гэта не толькі ўспамін пра гераічнае мінулае, але і сведчанне памяці і пераемнасці пакаленняў.

**Раіса МАРЧУК**

# Вяртанне з невядомасці

Ахова культурнай спадчыны — агульнадзяржаўная справа, якая датычыць не толькі навукоўцаў, гісторыкаў, археолагаў ці іншых даследчыкаў даўніны, а кожнага беларуса. Прэс-канферэнцыя, прысвечаная праблемам захавання і перадачы асабістых архіваў і бібліятэк пісьменнікаў-сучаснікаў на прыкладзе спадчыны Уладзіміра Конана, адбылася ў Інстытуце культуры Беларусі.

Архіў пісьменніка, гісторыка і літаратурнага крытыка Уладзіміра Конана, які зрабіў велізарны ўнёсак у развіццё беларускай філасофіі, эстэтыкі, культуралогіі, фалькларыстыкі, быў ледзь не страчаны назаўсёды.

Аўтарскія рукапісы, машынапісы артыкулаў, перапіска з вядомымі пісьменнікамі XX стагоддзя і кнігі з іх аўтографамі, дакументы, унікальныя рабочыя матэрыялы з камандзіровак, калекцыя перакладных слоўнікаў, старадрукаваныя выданні, фотаздымкі і асабістыя рэчы — усё гэта знаходзілася ў кватэры творцы, сярод смецця і пылу. Дзякуючы супрацоўнікам Інстытута культуры Беларусі і неабыякавым грамадзянам спадчыну Уладзіміра Конана выратавалі.

Сярод знойдзеных матэрыялаў асаблівую каштоўнасць уяўляюць дзённікі. Штодзень пісьменнік занатоўваў тое, што бачыў, апісваў тых, з кім размаўляў, ствараючы цэлую галерэю падзей і вобразаў. У яго бібліятэцы амаль няма кніг без подпісаў аўтараў. Уладзімір Конан меў шмат сяброў, яго паважалі і шанавалі. Дапаўняе асабісты архіў грунтоўная калекцыя пласцінак і паштовак.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі, сярод якіх былі прадстаўнікі музеяў, бібліятэк, навучальных устаноў краіны, прыйшлі да высновы: архівы пісьменнікаў павінны быць цэласнымі і захоўвацца не толькі ў рэальным, але і віртуальным выглядзе для папулярызацыі іх зместу ў першую чаргу сярод моладзі.

Прарэктар Інстытута культуры Беларусі Ірына Лапцёнак адзначыла, што некаторыя матэрыялы з архіваў пісьменнікаў трэба размяшчаць у музеях з мэтай прэзентацыі для шырокага кола грамадзян. Спадчына павінна экспанавацца, а не ляжаць мёртвым грузам. Тым больш што ў многіх кнігасховішчах не хапае месца для змяшчэння комплексных архіўных матэрыялаў.

На думку загадчыка навуковадаследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Галіны Кірэевай, яшчэ адна праблема, якую трэба вырашаць, — гэта праца з пісьменнікамі пры іх жыцці. На жаль, не ўсе дзеячы культуры могуць аб'ектыўна ацаніць свае творы і напрацоўкі, нават лічаць іх не вартымі для захавання, а іх дзеці і ўнукі пасля смерці знакамітых родзічаў увогуле не ведаюць, што рабіць з іх спадчынай. Працаваць трэба і з рэгіянальнымі пісьменнікамі ды навукоўцамі. Пра іх мала ведаюць, але тое, што яны робяць, ні ў якім выпадку не павінна быць страчаным. Любое даследаванне, адкрыццё, кніга могуць стаць карыснай знаходкай для ўсёй краіны, не будучыні.

У межах мерапрыемства прайшла творчая сустрэча з калегамі і вучнямі Уладзіміра Конана, прымеркаваная да 80-годдзя з дня яго нараджэння. Так, загадчык аддзела старадрукаваных і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Беларусі Валерый Герасімаў шчыра прызнаўся, што асоба Уладзіміра Конана для яго нават у нечым апостальская: «Я ў захапленні ад творчага гарэння гэтага сціплага чалавека. Калі ж казаць пра агульную спадчыну беларусаў, то ўпэўнены, што мы вельмі багатыя! Пакуль існуюць такія даследчыкі, пісьменнікі, творцы, як Уладзімір Конан, можна быць спакойнымі за гісторыю Беларусі і яе незалежнасць».

**Марыя ВОЙЦІК**

# Музей паэтэсы

У Цемналескай бібліятэцы-філіяле Дрыбінскага раёна адбылося ўрачыстае адкрыццё музейнага пакоя вядомай горацкай паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніны Кавалёвай.

Ніна Дзмітрыеўна родам з вёскі Еськаўка Дрыбінскага раёна. Але амаль тры дзесяцігоддзі жыве ў Горках. Нягледзячы на цяжкую хваробу, плённа працуе на ніве паэзіі. Яе творчая скарбонка налічвае ўжо 18 асабістых зборнікаў і больш як 40 песень.

Бібліятэкара Алену Шавардову ўразіла немалая літаратурная спадчына Ніны Дзмітрыеўны. Ідэю стварэння музейнага пакоя падтрымалі дырэктар Дрыбінскай раённай бібліятэкі Тамара Салтанава і кіраўніцтва раёна. Вучні і настаўнікі Цемналескай школы даследавалі творчасць паэтэсы. Вынік сумеснай працы — музейны пакой «Паэтычная зорка маленькай радзімы».

Тут можна пабачыць імправізаванае рабочае месца пачынаючай паэтэсы. Калі яе рукі не маглі трымаць аловак, бацька за вядро мёду купіў друкарскую машынку, і дзяўчына стукала алоўкам па клавішах...

У 28 гадоў яна піша першыя вершы і дасылае ў газету «Советская Белоруссия». Яе талент заўважае тагачасны загадчык аддзела культуры гэтага выдання Раман Ярохін. На працягу ўсяго жыцця ён не губляе сувязі з паэтэсай.

Не забываюць Ніну Кавалёву і ў Горках. Яна актыўны член народнага аматарскага аб'яднання «Роднае слова».

**Людміла ДЗЕРУЖКОВА,**
**кіраўнік народнага аматарскага аб'яднання «Роднае слова»**

# Нашы майстры і ў Парыжы

Чацвёрты год мастацкая галерэя «З'ява» Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева здзіўляе наведвальнікаў знаёмствамі з майстрамі традыцыйных відаў творчасці і дызайну.

Сёлета ў праекце брала ўдзел больш як 40 прафесійных мастакоў і аматараў з Мінска, Жодзіна, Віцебска, але большая частка з іх — прадстаўнікі Барысаўшчыны. Праект мае на мэце аб'яднаць жанчын, якія апынуліся ў складаных жыццёвых абставінах. Гэта маці, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў, гаспадыні шматдзетных і няпоўных сем'яў. Галерэя імкнецца адлюстраваць, як уплывае традыцыйнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва на сучасны дызайн аўтарскіх вырабаў. Да таго ж Барысаўшчына багатая на падзеі Айчыннай вайны 1812 года, гэта таксама паўплывала на фарміраванне экспазіцыі і стала выразным яе акцэнтам.

Вельмі ўдала перадае атмасферу таго часу рэканструкцыя класічнага інтэр'ера эпохі ампіру. Перанесціся ў часе гледачам дапамагаюць адмысловыя рэчы, створаныя рукамі Святланы Швайбовіч і Алега Шпілёвага. Уяўляеш, як паненка складвае свае ўпрыгожванні ў камоду з назвай «Пястун сям'і» (аздоблены ў аўтарскай структурнай тэхніцы С. Швайбовіч), а на крэсле «Колькі год я пераражыў, але малады і поўны моцы» сядзіць гаспадар у мундзіры афіцэра (выраблены майстрам-рэканструктарам А. Шпілёвым) ды смокча люльку...



Вабіць вока цікавы па тэхніцы выканання сервіз для гарбаты дызайнера С. Швайбовіч. Сябра Творчага саюза мастакоў Расіі і Міжнароднай творчай майстэрні «Палітра XXI стагоддзе», заўзяты ініцыятар і суаўтар крэатыўных праектаў галерэі, Святлана выступіла арганізатарам «выстаўкі ў выстаўцы», на якой прадстаўлены творчыя работы ўдзельнікаў мінскага філіяла школы-студыі «Новы кірунак» (г. Масква) пад кіраўніцтвам Любові Якаўлевай. Студыя існуе з 2007 года і аб'ядноўвае творцаў, якія захапляюцца стварэннем фларыстычнага калажу.

Не пакідаюць абыякавымі работы, што грунтуюцца на традыцыйнай народнай творчасці. Эфектна і лёгка ўплятаюцца ў агульны кантэкст лазовыя карункі народнага майстра Ірыны Шадурскай. Цацкі-свірысцёлкі Вольгі Жарнасек нібы толькі ўчора гукалі вясну, а сёння цешаць дзетак у зале галерэі. Мастак Юлія Пухлякова выкарыстоўвае свае дызайнерскія знаходкі, каб дасягнуць неабходнага эфекту ў серыі керамічных вырабаў пад назвай «Падарожжа за тры моры». Незвычайныя, амаль бязважкія шаўковыя паланціны ў спалучэнні з лямцам, дзіцячыя валёначкі, цёплыя рукавічкі, інтэр'ерныя цацкі майстра Таццяны Бардзілоўскай уражваюць наведвальнікаў унікальнай тэхнікай выканання і аздаблення.

Вылучаюцца ў экспазіцыі жыццярадасныя каларыстычныя інтэр'ерныя лялькі Юліі Веялка, Таццяны Баравісюк, Людмілы Касцюк ды Ірыны Дрэкода. Звяртаюць на сябе ўвагу і калекцыі ўпрыгожванняў з палімернай гліны Вікторыі Рэут і Вікторыі Каленік. Дарэчы, калекцыя В. Каленік «Верацяно» напярэдадні адкрыцця праекта «Тутэйшыя майстры» вярнулася з выстаўкі ў Парыжы. А пастаянная ўдзельніца праекта Алеся Пацукевіч здзіўляе гледачоў у сваіх улюбёных тэхніках вышыўкі бісерам і сутажу.

Нягледзячы на невялікі тэрмін існавання праекта, ён стаў культурнай падзеяй рэгіёна, выявіўшы новыя напрамкі ў дэкаратыўным і дызайнерскім мастацтве.

**Анжэла КУДАКОВА,**
**мастацтвазнаўца мастацкай галерэі «З'ява»**

# Рарытэт, хаця й няпоўны

Арыгінальныя старонкі Брэсцкай Бібліі, выдадзенай у другой палове XVI стагоддзя, даследуюць у Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага.

Маецца на ўвазе няпоўны асобнік Брэсцкай Бібліі, якая пабачыла свет у 1563 годзе. Унікальнае выданне пачынаецца са 121-й старонкі і не мае канчатка. Пры гэтым вокладка фаліянта была зроблена ў XVIII стагоддзі. Тое, што гэта арыгінал, пацвярджаюць сведчанні міжнародных кнігазнаўцаў. Рарытэт захаваўся ў добрым стане. Хто і навошта выняў цэлыя кавалкі тэксту з Бібліі — невядома. Гэтае пытанне патрабуе асобных даследаванняў.

Унікальны помнік культуры ўжо афіцыйна занесены ва ўсе рэестры і каталогі. Дагэтуль у Беларусі быў вядомы толькі адзін няпоўны экзэмпляр Брэсцкай Бібліі, які знаходзіцца ў цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук. Праўда, у ім адсутныя іншыя часткі выдання.

У абласную бібліятэку кніга паступіла ў канцы мінулага года. А набылі яе ў адным з кніжных салонаў Мінска за сродкі абласнога бюджэту. Цяпер супрацоўнікі кніжніцы мараць знайсці поўны асобнік Бібліі і падарыць яго роднаму гораду да тысячагоддзя.

Сёння вядома пра 120 асобнікаў Брэсцкай Бібліі, якія знаходзяцца ў розных бібліятэках Еўропы. Набыць іх вельмі складана. На букіністычных аўкцыёнах кошт такіх кніг пачынаецца ад 30 тысяч долараў… У абласной бібліятэцы спадзяюцца, што пры неабходнасці патрэбную суму дапамогуць сабраць спонсары і гараджане.

Брэсцкая (Радзівілаўская) Біблія была выдадзена ў Брэсцкай друкарні Мікалая Радзівіла Чорнага. Гэта самае вялікае па аб'ёме выданне XVI — XVIII стагоддзяў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Дзякуючы раскошнаму вонкаваму выгляду (скураная вокладка з металічнымі ражкамі, гравіраваныя тытульныя лісты) кнігу справядліва можна назваць шэдэўрам паліграфічнага мастацтва эпохі Рэнесансу. Выданне забяспечана гравюрамі-ілюстрацыямі для першых частак Старога Запавету. Мае прыгожы, зручны для чытання гатычны шрыфт і прадметны паказальнік, што ўпершыню сустракаецца ў беларускім кнігадрукаванні таго часу.

Вялікая частка тыражу Брэсцкай Бібліі загінула. Яе ацалелыя асобнікі захоўваюцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу, бібліятэцы Акадэміі навук Літвы, бібліятэцы Ягелонскага ўніверсітэта ў Польшчы.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Таямніца трох карт

Апошняя ў гэтым тэатральным сезоне прэм'ера Вялікага тэатра Беларусі прымусіла чакаць сябе з нецярпеннем, бо пастаноўка «Пікавай дамы» — падзея, міма якой не зможа прайсці ніводны аматар оперы. Для працы над гэтым творам Пятра Чайкоўскага ў Мінск быў запрошаны рэжысёр з Балгарыі — дырэктар Сафійскага тэатра оперы і балета, акадэмік Пламен Карталаў. Яго асоба знакавая для балгарскага мастацтва і, дарэчы, ужо знаёмая беларусам: спадар Карталаў прывозіў пастаноўку вагнераўскага «Зігфрыда» на Мінскі міжнародны Калядны оперны форум. Прэм'ера «Пікавай дамы» ў яго аўтарскай пастаноўцы адбудзецца 5 і 6 чэрвеня, а пакуль Пламен Карталаў згадзіўся распавесці пра задумкі, якія ён хоча рэалізаваць у спектаклі.



**— На вашым персанальным сайце сярод пастановак няма ніводнай па Чайкоўскаму. Няўжо за працяглую прафесійную кар'еру вы ўпершыню ставіце оперу генія рускай музыкі?**

— У маім рэжысёрскім багажы больш як сто спектакляў — ад камернай опернай формы да самай «манументальнай», на маленькіх і вялікіх сцэнах, а таксама ў месцах, даволі незвычайных для класічных оперных прадстаўленняў: у сярэднявечных замках, на плошчах, футбольных стадыёнах, парках… Я вельмі ўдзячны лёсу, які дазволіў мне звярнуцца да творчасці прадстаўнікоў розных кампазітарскіх школ і музычных эпох: Мантэвердзі, Бах, Гайдн, Моцарт, Глюк, Чымароза, Расіні, Даніцэці, Вердзі, Пучыні, Вагнер, Маснэ, Дэліб, Масканьі, Афенбах, Леанкавала, Бернстайн, а таксама да балгарскіх аўтараў — Уладзігерава, Піпкова, Галемінава. Да рускай музыкі я таксама звяртаюся. Напрыклад, акно пяць разоў ставіў «Князя Ігара» Барадзіна. А пасля прэм'еры «Пікавай дамы» ў Мінску буду заняты яшчэ адным цікавым праектам. Напрыканцы чэрвеня ўпершыню ў Сафіі мае адбыцца пастаноўка оперы «Барыс Гадуноў» Мусаргскага. Гістарычныя падзеі, адлюстраваныя ў ёй, «адбудуцца» на прыступках сабора Святога Аляксандра Неўскага. Спектаклі пад адкрытым небам — маё вялікае захапленне, тым больш што плошча перад саборам з'яўляецца духоўным і культурным цэнтрам не толькі Сафіі, але і ўсёй Балгарыі.

Такім чынам, я дастаткова часта звяртаюся да рускай опернай класікі. І вельмі рады, што нарэшце, дзякуючы кіраўніцтву Вялікага тэатра Беларусі, наспеў час і для Чайкоўскага. «Пікавая дама» — геніяльная опера, адзін з тых твораў сусветнага музычнага рэпертуару, які патрабуе вельмі глыбокага творчага і філасофскага асэнсавання.

**— Як вы ставіцеся да актуалізацыі класічных оперных твораў?**

— Я думаю, што кожны рэжысёр, які паважае кампазітара, адчувае сябе носьбітам яго паслання. Аднак нельга не разумець, што пэўны твор, напісаны сто, дзвесце ці больш гадоў таму, утрымлівае ў сабе атмасферу сваёй эпохі, таму і павінен трансфармавацца ў адпаведнасці з новымі поглядамі на мастацтва.

Вельмі складанае пытанне, да якой ступені ў рэжысёрскага эга будзе першарадная роля ў інтэрпрэтацыі класікі ў новым, больш модным ракурсе. Мой выбар заўсёды на карысць музычнай драматургіі твора, я ў згодзе з мастацкімі патрабаваннямі кампазітара. У любым выпадку беларуская пастаноўка «Пікавай дамы» не будзе традыцыйнай і знаёмай. Мне здаецца цікавым пабудаваць тэатральны бок спектакля па прынцыпах старажытнагрэчаскай трагедыі, бо ў лёсе герояў моцна прысутнічае наканаванне. Іх характары поўныя супярэчнасцей, запалу, кантрастаў камічнага і трагічнага, барацьбы кожнага з той «лёсавай сілай, якая перашкаджае імкненню да шчасця дасягнуць мэты». Героі «Пікавай дамы» — звышэмацыянальныя, закаханыя, рацыянальныя і ірацыянальныя, безразважныя ад ідэі-фікс здабыць багацце азартам, адкрыць таямніцу трох карт. Менавіта з-за свайго вар'яцтва Герман прайграе і сваю апошнюю карту, і сваё жыццё.

Тэатр Чайкоўскага — тэатр моцнага ўздзеяння, які паглынае публіку і круціць у віры эмоцый. Найважнейшую ролю тут адыгрывае аркестр. Як і ў Вагнера, дзе аркестр выконвае ролю Хору ў старажытнагрэчаскай трагедыі, у «Пікавай даме» мы чуем і бачым яго ў вобразе карыфея, каментатара, суддзі, назіральніка: калі героі не спяваюць, аркестр стварае эмоцыі, робіць іх зразумелымі.

**— Якім будзе візуальны вобраз спектакля?**

— Наш герой Герман жыве быццам у свеце сноў. Гэты пакутлівы, балючы, поўны ілюзій сон развіваецца як у рэальным часе, так і ў фантазіі галоўнага героя. Таму на сцэне ідуць два планы паралельна: сцэны сапраўдных падзей перамяжоўваюцца з рэмінісцэнцыямі-ўяўленнямі. Іх адлюстраванне ў спектаклі мы стварылі разам з мастаком Аляксандрам Касцючэнкам і мастаком па касцюмах Нінай Гурло. Спадзяюся, на гледачоў акажуць моцнае ўздзеянне велізарныя люстраныя парталы, якія, нібы таямнічыя сцэны, не толькі паказваюць уяўленні персанажаў, але і ўвасабляюць сувязь са светам нябачных сіл у жыцці герояў.

**— Як праходзіць праца з беларускай трупай? Ці атрымалася ў вас стаць аднадумцамі з дырыжорам-пастаноўшчыкам Андрэем Галанавым?**

— Склад салістаў у нас проста цудоўны! Для выканання ролі Германа беларуская опера мае такога знакамітага выканаўцу, як народны артыст Сяргей Франкоўскі. Ён не толькі спявак, але і сапраўдны драматычны акцёр: горача і разумна аддаецца гэтай гіганцкай партыі — этапнай у кар'еры любога тэнара. Праца хору і аркестра, а таксама ўсіх тых, хто задзейнічаны ў выпуску спектакля, таксама на ўзроўні. А з маэстра Галанавым мы наўпрост не змаглі б працаваць, калі б не было поўнага прафесійнага сінхрону і агульнага разумення партытуры. Без творчага саюза з дырыжорам і артыстамі пастаноўка спектакля «Пікавая дама», выбар якой паказвае высокі густ тэатра ў падыходзе да рэпертуару, была б проста немагчымай.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

# Ход катом



*Наталля Жыгамонт «Ход катом», 2009 г.*

Мінская гарадская мастацкая галерэя твораў Леаніда Шчамялёва прадставіла ўвазе гледачоў выстаўку «Вандроўка» творчага аб'яднання «Мы», прымеркаваную да сусветнага Дня чамаданаў. Экспазіцыя — вандроўка па мастацкім свеце яе ўдзельнікаў, іх расповед пра самыя яскравыя жыццёвыя ўражанні.

«Мы» — нефармальнае аб'яднанне, якое ўзнікла з творчай суполкі выкладчыкаў, выпускнікоў і студэнтаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Галоўнае — пераемнасць пакаленняў. Праглядаючы экспазіцыю, немагчыма разабрацца, дзе работы вучняў, а дзе — настаўнікаў.

— Калі мы выпраўляемся ў падарожжа, то захапляемся новымі і прыгожымі людзьмі, краявідамі, архітэктурай, жывёламі, птушкамі... Менавіта пачуццямі, вобразамі мы і хацелі падзяліцца. Бо, як вядома, людзі глядзяць на адно і тое ж, але кожны бачыць сваё, — падкрэсліла куратар выстаўкі Крысціна Лядская.

У экспазіцыі прадстаўлены розныя віды мастацтва: жывапіс, графіка, кераміка, мастацкая апрацоўка скуры. Але гэтая разнастайнасць не перарастае ў «вінегрэт»: усе работы выкананы з выкарыстаннем толькі трох колераў — белага, чырвонага і чорнага. Выбар такой гамы не выпадковы. Аб'яднанне ўжо звярталася да яе ў 2010 годзе, калі ладзілася першая выстаўка «Сёння, заўтра і ўчора». Пра сімвалічнасць колеравай гамы распавяла Крысціна Лядская: «Мы вандруем па Беларусі. Асноўныя колеры — традыцыйныя. Белы — сімвал чысціні і незалежнасці. Чырвоны — сімвал сонца, цяпла, жыцця, любові і радасці. Чорны — сімвал таямніцы, ночы, спакою. Спалучэнне адценняў гэтых трох колераў адкрывае перад аўтарамі шырокія сэнсавыя і дэкаратыўныя магчымасці».

Графіка адлюстроўвае Беларусь мінімальнымі сродкамі і часцей за ўсё ў невялікіх памерах. Максімальная сціпласць і абстрактнасць — у камп'ютарнай графіцы Паўла Кашэўскага. Аптымізму надаюць выстаўцы жывапісныя працы. Так, Наталля Жыгамонт эксперыментуе з яркімі колерамі, незвычайнымі тэхнікамі і сюжэтамі: як вам Беларусь у выглядзе шахматнай дошкі і ката? («Ход катом», 2009). Безумоўна, сярод такой разнастайнасці кожны знойдзе сваё.

**Паліна ПЛАТАВА**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2505.

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 29.05.2014 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 1979.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686